

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4881) 29 ліпеня 2016 г.




# «Над прадоннем былінных азёр...»

Яўгенія Янішчыц



Фота Анатоля Клешчука.

Возера Божае вока.

…Нібыта стварыў зямлю і акінуў вокам: так добра, што трэба гэты куточак пазначыць асаблівай увагай-напамінам. Пакінуць адбітак Боскай прысутнасці. Адно з загадкавых азёраў Беларусі — Божае вока, што на Браслаўшчыне, цудоўна круглае і глыбока сіняе, быццам у ім раставарылася вечнасць. Ціхае, схаванае сярод лясоў — для сваіх, якім дадзена магчымасць сілкавацца ад жыватворнай вады.

Для нас яна сапраўды жыватворная: не маючы мора (хоць і калісьці пісаў Герадот пра мора на гэтых землях), мы цяпер валодаем каласальным (кажуць, стратэгічным) запасам прэснай вады, што захоўваюць азёры, якіх у нас больш за 10 000. Нашы продкі здаўна называлі іх вачыма. Быццам сама прырода назірае за людзьмі. Давалі азёрам адметныя назвы: ад прыродных Белых і Чорных (якіх некалькі, у розных раёнах), Чырвоных, Блакітных да іменаў, падобных на чалавечыя. Ставіліся да іх як да жывых істот, надзяляючы дзіўнымі здольнасцямі: лекаваць, ачышчаць, наталяць і натхняць. Пра паходжанне нашых азёраў складзены чароўныя і прыгожыя легенды, якія не аджылі свае нават у час панавання навуковай думкі і матэрыялізму.

Колькі слёз трэба выплакаць, каб з іх утварылася возера?.. За якія правіны карае вада, змываючы памяць пра людзей назаўжды?.. Дзе можна сустрэць беларускага цмока?.. Найцікавейшыя легенды і паданні, а таксама творы мастацтва, прысвечаныя азёрам, мы паспрабавалі ўзгадаць. Спадзяёмся, яны дапамогуць лепш зразумець нашу зямлю і будуць карыснымі для тых, каго ў спёку вабяць водныя прасторы. Не трэба ехаць далёка, яны ёсць і на радзіме. Для тых, хто ў летні час думае пра вандроўкі па краіне, наш праект «Родны кут: азёрны».

Працяг тэмы на 4-й стар.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Валянціну Гаявую. «Вы ўнеслі неацэнны ўклад у захаванне і развіццё лепшых традыцый нацыянальнага харэаграфічнага мастацтва. Менавіта з вашым імем звязаны значныя дасягненні Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", творчасць якога з'яўляецца неад'емнай часткай залатога фонду айчыннай культуры», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Расіі Ірыну Разанаву з юбілеем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што яркімі работамі ў тэатры і кіно, мэтанакіраванасцю і адданасцю мастацтву Ірына Разанава заваявала шчырую любоў і прызнанне публікі не толькі ў Расіі, але і за яе межамі. «Дзякуй за тое, што нязменна радуеце гледачоў сваім акцёрскім майстэрствам і садзейнічаеце ўмацаванню дружбы і культурных сувязей паміж нашымі народамі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Алега Газманава з 65-годдзем. «Дзякуючы таленту, артыстызму і прафесійнаму майстэрству вы дасягнулі поспеху як спявак, паэт, кампазітар і заваявалі сэрцы шматлікіх паклоннікаў, якія заўсёды з нецярпеннем чакаюць сустрэч з любімым артыстам. Нямала іх і ў Беларусі», — адзначыў Прэзідэнт і пажадаў, каб шматгранная творчасць Алега Газманава і ў далейшым аб'ядноўвала людзей, садзейнічаючы ўмацаванню дружбы і супрацоўніцтва паміж краінамі.

✔ Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў лічыць вартай увагі ідэю аб прысваенні Нацыянальнаму аэрапорту «Мінск» імя Францыска Скарыны, а самалётам — імёнаў выдатных дзеячаў мастацтваў. У падтрымку гэтай ідэі Міністэрства культуры накiравала неабходныя звароты ў адпаведныя дзяржаўныя структуры. «Такая ініцыятыва агучана ўжо не ўпершыню, але яе рэалізацыя ў Год культуры была б сімвалічнай», — адзначыў Барыс Святлоў.

✔ У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ўчора адкрылася выстаўка карцін «Лічбы на сэрцы» Героя Беларусі, народнага мастака СССР, народнага мастака Беларусі, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Міхаіла Савіцкага. Серыя з 16 карцін знамянуе асаблівы этап у творчасці мастака, раскрывае злавеснае аблічча фашызму і адначасова сцвярджае бессмяротнасць нескаронага чалавека.

✔Выстаўка сучасных абразоў «Прытчы» прадстаўлена ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык». У экспазіцыі — амаль 50 работ мастакоў з Украіны, Польшчы, Беларусі, Славакіі і Грузіі, якія працуюць у традыцыях царкоўнага мастацтва. Гэта аўтарскае бачанне сакральнай тэмы — прытчаў Старога і Новага запавету. Выстаўка — своеасаблівая творчая справаздача ўдзельнікаў міжнароднага леташняга пленэру іканапісу ў горадзе Навіца (Польшча).

✔ Саша Захарык прадставіць Беларусь на Міжнародным музычным конкурсе маладых выканаўцаў «Новая хваля-2016». Спявачка задаволена зацверджанымі песнямі. Паводле яе слоў, арганізатары змаглі «адчуць» беларускую вакалістку і выбралі цудоўныя песні. А дзесяцігадовая Руслана Панчышына прадставіць нашу краіну на Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў папулярнай музыкі «Дзіцячая Новая хваля-2016».

✔ Ужо традыцыйнае ў Нарачанскім краі свята возера «Прыгажосць майго краю», якое штогод збірае сотні жыхароў і турыстаў курортнай зоны, адбудзецца заўтра ў Мядзелі на беразе возера Мястра. У праграме — цікавая канцэртная праграма, выстаўка работ майстроў-рамеснікаў, майстар-класы па розных відах рамёстваў, сэлфі з беларускімі літаратурнымі героямі, «Мядзельскія прысмакі» для гасцей.

## ГОДныя справы

### Барыс Святлоў:

# «Кодэкс аб культуры працягвае добрую традыцыю Статутаў ВКЛ»



### Дакумент створаны на беларускай мове

Агульны юрыдычны дакумент, пра які некалькі апошніх гадоў вялася гаворка, заклiканы ўпарадкаваць заканадаўства ў сферы культуры. Згодна з ім галіна пачне дзейнічаць праз паўгода пасля таго, як дакумент будзе надрукаваны. Чакаць нядоўга: Кодэкс аб культуры быў прыняты Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу і ўжо падпісаны Прэзідэнтам краіны.

— Кодэкс аб культуры працягвае добрую традыцыю Статутаў ВКЛ: ён зроблены на беларускай мове. Па-другое, ён працягвае традыцыі кодэкснага мыслення, якое так характэрна для беларускай праваздаўчай практыкі — у нас ужо існавала некалькі кодэксаў да гэтага, — падкрэсліў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. — Праца над Кодэксам аб культуры пачалася прыблізна ў 2011 годзе, калі была сфарміраваная больш дакладна ідэя аб неабходнасці стварэння адзінага нарматыўнага дакумента. У 2013-м складзена канцэпцыя. Пасля пачалася праца над кодэксам як юрыдычным дакументам. Стварэнне кодэкса не было механічным аб'яднаннем дакументаў, якія існавалі раней: гэта 4 указы прэзідэнта, 7 законаў у галіне культуры, 20 пастаноў Савета Міністраў, 25 — Міністэрства культуры, яшчэ шмат так званых падзаконных нарматыўных актаў. Усе яны прыведзены ў сістэму: адзін да аднаго прыстасаваны, скасаваныя паўторы, дададзена тое, што забяспечыць сувязь паміж рознымі пунтамі. Гэты дакумент адрэдагаваны ў адпаведнасці з часам. Напрыклад, такое паняцце, як «культура», раней падавалася складаным, хоць, можа быць, добрым для навукоўцаў. Зараз яно стала вельмі простым і дакладным: культура — гэта культурная дзейнасць і сукупнасць вынікаў гэтай дзейнасці. На мой погляд, Кодэкс аб культуры павінен карыстацца павагай не толькі ў тых, хто мае непасрэднае дачыненне да сферы культуры, але і да ўсяго насельніцтва краіны, якое павінна ведаць сваё…

На пытанне «ЛіМа», наколькі актыўна ішло абмеркаванне праекта, міністр адказаў:

— Нават дагэтуль заўвагі і прапановы працягваюць паступаць, але яны паўтараюцца. Гэта не значыць, што над кодэксам праца цалкам спынена. Любы нарматыўны акт праз некаторы час мае тэндэнцыю пераглядацца, удакладняцца, таму што жыццё не стаіць на месцы. Некаторыя тэрміны і паняцці, якія мы выкарыстоўваем у кодэксе, магчыма, будуць заменены праз 3-4-5 гадоў. Напрыклад, у 2007-м мы ўводзілі паняцце «дыскатэка», а ў кодэксе яно заменена: «танцавальная і (або) забаўляльная праграма, якая суправаджаецца публічным выкананнем твораў музычнага мастацтва, калектываў мастацкай творчасці і (або) асобнымі выканаўцамі і (або) выкарыстаннем фанаграм з магчымым паказам аўдыявізуальных твораў, прывязненнем культурна-відовішчных мерапрыемстваў, гульняў і іншых забаў».

Адмысловая для нашых чытачоў захацелася ўдакладніць сутнасць паняцця «творчы работнік». Барыс Святлоў патлумачыў:

— Па-першае, у нас ёсць паняцце «дзеяч культуры і мастацтва». Гэта работнікі культуры і творчыя работнікі, якія атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды ці адзначаны за дзейнасць у галіне культуры. «Работнік культуры» — грамадзянін, які ажыццяўляе культурную дзейнасць на пасадзе, прадугледжанай кваліфікацыйным даведнікам. Ёсць паняцце «творчы работнік». Гэта грамадзянін, які ажыццяўляе творчую дзейнасць незалежна ад таго, ці з'яўляецца ён членам творчага саюза і ці датычны фармальна да галіны культуры. Дарэчы, у кодэкс упершыню ўведзена паняцце гастроляў. Гэта дзейнасць творчага калектыву ці юрыдычнай асобы, якая ажыццяўляецца па-за межамі таго месца, дзе яны зарэгістраваныя. Гастрольныя пасведчанні выдаюцца мясцовымі ўладамі ў адпаведнасці з заявай тых, хто хацеў бы правесці мерапрыемства.

Кодэкс складаецца з пяці раздзелаў і 257 артыкулаў. Прынцыпова новае, што з'явілася ў заканадаўстве, таксама тычыцца аховы археалагічнай спадчыны. У кодэксе ўлічана практыка супрацоўніцтва дзяржаўных устаноў культуры са спонсарамі і мецэнатамі. Прадугледжваецца ўплыў грамадскасці на прыняцце рашэнняў па пытаннях у галіне культуры. Акрамя таго, што дакумент будзе надрукаваны, ён павінен з'явіцца ў электронным варыянце, зручным для карыстання.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Пленэр

# Райскія дываны: памяць пра народнае

Міжнародны мастацкі пленэр «З Аленай Кіш у сэрцы» ўпершыню пройдзе 30 ліпеня ў «Культур-мультур сядзібе» — маляўнічым месцы на беразе Дубровскага вадасховішча. Беларускія мастакі будуць пісаць на свежым паветры, натхняючыся спадчынай майстра наіўнага мастацтва, стваральніцы маляваных «дываноў» з выключна беларускім акцэнтам, карпатліва распісаных уручную. Галоўнымі яе матывамі былі пазітыўныя, жыццесцвярджальныя вобразы: райскія абшары, экзатычныя звяры і кветкі, летуценныя дамы, «прытулак ад цяжкага сялянскага галаднаватага жыцця 20 — 40 гадоў». Алена Кіш хадзіла па сельскіх хатах і за ежу распісвала дываны для сцен. Толькі ў канцы 70-х, пасля трагічнай смерці мастачкі, да яе прыйшла вядомасць. Зараз яе імя знаходзіцца ў спісе творцаў з 50 краін у «Сусветнай энцыклапедыі наіўнага мастацтва» нароўні з Нікам Пірасмані і Анры Русо.



*«У райскім садзе».*

Апынуўшыся ў творчай атмасферы пленэру, кожны зможа стварыць сваю карціну, наведаць майстар-класы ад Ганны Балаш, Аляксандра Дзямідава, Жанны Капуснікавай, Аляксандра Наўгародцава, Аляксандра Рэпкі. А таксама пакупацца ў возеры і адпачыць за музычнай «размінкай». Яшчэ — розыгрыш падарункаў, карцін альбо скульптур, створаных мастакамі падчас пленэру. Чаму мерапрыемства міжнароднае? Удзельнічаюць таксама творцы з Севастопаля.

Арганізатары — мастацкая галерэя «Мастацкі маёнтак» і Цэнтр экалагічных рашэнняў — абяцаюць, што з транспартам да месца правядзення пленэру праблем не будзе. Спецыяльна для наведвальнікаў арганізуецца аўтобус з Мінска ў в. Дуброва і назад.

Сума, якую можна будзе ахвяраваць дзеля падаўжэння праекта, — ад 50 да 5000 *BYN*. Падтрымаць ініцыятыву можна і на сайце «Талакі». Гэта прыклад народнага фінансавання, краўдфандынгу. Дзеля чаго? Дзеля арганізацыі выстаўкі ацалелых твораў Алены Кіш (а колькі іх яшчэ, невядомых, засталося ў сялянскіх хатах) і карцін яе калег, напісаных у межах пленэру.

**Марыя ВОЙЦІК**

Конкурсы

# Будучым медыкам і не толькі

Вось ужо пяты год запар літаратурны клуб «Катарсіс» пры Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце праводзіць адкрыты літаратурны конкурс. Спачатку ў ім удзельнічалі пераважна студэнты гэтай ВНУ — сябры клуба «Катарсіс». Пазней падключыліся навучэнцы іншых ВНУ і каледжаў, а сёлета, па шматлікіх просьбах самадзейных аўтараў, творчае спаборніцтва выйшла за межы Гродна, і ўдзел у ім узялі 36 паэтаў, празаікаў і драматургаў з Гродна, Мінска, Брэста, Бярозы, Бабруйска ды іншых гарадоў. Паводле ўмоў конкурсу, аўтары прадстаўлялі не больш як пяць твораў у кожнай з намінацый.

Прыемна здзівілі мастакі празаічнага цэха. Тут члены журы ўбачылі і разнастайнасць тэм, і неардынарнасць падыходу да іх раскрыцця, і багатую палітру вобразаў ды характараў. За рэдкім выключэннем узровень дасланых апавяданняў быў даволі высокі. Так, практычна аднадушна журы адзначыла прозу Дар'і Значонак. Сталічная студэнтка цудоўна валодае мастацкім словам. Вельмі разнастайныя як сюжэты, так і настрой яе апавяданняў. І чытаюцца творы Дар'і, як кажуць, на адным дыханні. Таксама жанравай разнастайнасцю вылучаюцца творы Антона Піліпчыка, героі якіх — простыя беларусы ў розных жыццёвых сітуацыях. Тут і Вялікая Айчынная вайна, і сённяшнія дні. Але нават на шэрым фоне будзённасці аўтар стварае яркія, часам неадназначныя, але запамінальныя вобразы. Дасціпны гумар, нечаканасць сюжэтаў, умелае перапляценне сучаснага і крыху фантастычнага будучага ўласцівы апавяданням Паўла Падзорава. У лёгкай, дзе-нідзе іранічнай форме аўтар уздымае досыць глыбокія маральныя пытанні ўзаемаадносін у грамадстве. А Юлія Кісялеўская дасылала на конкурс цыкл дзіцячых казак пра прыгоды феі Палінкі, якія кранаюць дабрынёй і шчырасцю. Магчыма, у будучыні варта зрабіць асобную конкурсную намінацыю — «Дзіцячая літаратура».

Значна большай колькасцю ўдзельнікаў была прадстаўлена паэтычная частка конкурсу. Сярод тэм твораў — вайна, каханне, жыццё і месца чалавека ў грамадстве…

Цікава было пазнаёміцца і з творамі на замежных мовах. Безумоўна, лічыцца, што дасканалы твор можа напісаць толькі носьбіт той ці іншай мовы. І з гэтым цяжка не пагадзіцца. Тым не менш дастаткова прафесійна напісаў верш па-англійску Дзмітрый Радзівончык. Цікава чыталіся апавяданне Алены Антаневіч «*Potyłka*», верш Валерыі Кібус «*Mask*», вершы Алены Ясэк «*Babci Agacie*», «*Bez*».

Таксама хацелася б асобна адзначыць моцную і плённую літаратурную кагорту Ваўкавыска: адсюль творы на конкурс даслалі 12 аўтараў!

Усе ўдзельнікі атрымалі памятныя сертыфікаты. А пераможцамі конкурсу ў намінацыі «Проза» сталі Дар'я Значонак з Мінска (1-е месца), Антон Піліпчык з г. Бярозаўка (2-е) і Павел Падзораў з Бабруйска (3-е). У намінацыі «Паэзія» лепшыя Настасся Самушчык, Тамара Ігнатовіч з Ваўкавыска (1-е і 2-е месцы адпаведна) і Алена Лютко з Мінска (3-е месца).

**Віктар ВАРАНЕЦ,**
**кіраўнік літаратурнага клуба «Катарсіс», старшыня журы конкурсу**

Стасункі

# Паразуменне літаратур

Усёмым нумары часопіса «Бярозка» надрукавана апавяданне туркменскага пісьменніка Камека Кулiева «Паразуменне». Шараговы, здавалася б, факт. Але гэта калі мераць катэгорыямі ранейшых часін. Зазірнуўшы ў 1950 — 1990-я гады, можна згадаць нямала і асобных кніг туркменскіх аўтараў па-беларуску. Тады былі выдадзены проза і паэзія Берды Кербабаева, Нуры Байрамава, Каюма Тангрыкулiева, Агагельды Аланазарава, Бабаніяза Каюмава, Курбана Чаліева, Тыркіша Джумагельдыева, некалькі калектыўных зборнікаў. Асобна — анталогія туркменскай дзіцячай літаратуры «Кветкі Каракумаў». Асобна — зборнік паэзіі чатырох аўтараў «Мая Туркменія» (пад адной вокладкай — творы Керыма Курбанняпесава, Алаберды Хаідава, Бердыназара Худайназарава, Ата Атаджанава).

Зараз сітуацыя іншая. І ўсё ж у беларускіх літаратурна-мастацкіх перыядычных выданнях робіцца шмат дзеля таго, каб прадстаўляць беларускаму чытачу сучасную туркменскую літаратуру. У апошнія гады ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Бярозцы», «Вясёлцы» надрукаваны проза і паэзія Касыма Нурбадава, Агагельды Аланазарава, Бягуль Анабаевай, Аннамухамеда Кіршэна, Атамурада Атабаева, Бібі Араздурдыевай... І вось — апавяданне Камека Кулiева «Паразуменне» ў перакладзе на беларускую мову нагадала пра таленавітага туркменскага празаіка. Будзем лічыць, што гэтым пакладзены пачатак знаёмству беларускага чытача з творчасцю яркага, шматаблічнага аўтара.

Часопіс «Бярозка» робіць шмат для прапаганды дзіцячых літаратур іншых краін. Дыпламатыя слова ажыццяўляецца найперш дзякуючы перакладчыцкім памкненням Генадзя Аўласенкі, Міколы Чарняўскага і іншых таленавітых беларускіх творцаў.

**Сяргей ШЫЧКО**

Вернісаж

# За кулісамі



Фотамастацтва здольнае распавесці пра рэчы, якія не заўважныя ў мітусні будняў і падзей. Малады фатограф Вольга Мароз даследуе глыбіню дзеяння, спрабуе разабрацца ў дробязях. У ліпені ў кніжна-выставачнай прасторы «Кніжная шафа» яна прадставіла новы праект «Балет. Пачатак», дзе паказвае балет з адваротнага боку, схаванага ад вока гледача. На яе фотаздымках няма сцэны, тэатральных дэкарацый і шыкоўных сцэнічных касцюмаў. Аўтар пераносіць гледача за кулісы тэатра, дзе артысты з дня ў дзень асвойваюць прынцыпы, тэхніку танца.

На фотаздымках — навучэнцы Беларускага харэаграфічнага каледжа падчас рэпетыцый у балетных класах, падчас адпачынку паміж урокамі, перад выхадам на сцэну. На твары кожнага героя — эмоцыі, разгадаць якія Вольга прапануе гледачам. Работы аўтара дэманструюць, наколькі балет складанае мастацтва з пункту гледжання працы над сабой, наколькі тут патрэбна вытрымка, сабранасць. У экспазіцыі Вольга праводзіць паралель паміж візуальным эфектам балета і яго дасягненнем.

Работы чорна-белыя, што акцэнтуе ўвагу на формах, фактурах і не дазваляе гледачу пераключацца на старонніх фактары.

Над праектам Вольга Мароз працавала тры гады. Зацікаўленасць мастацтвам абумоўлена тым, што калісьці аўтар сама марыла стаць балерынай. На працягу сямі год яна займалася ў балетным класе, але, па словах Вольгі, выдатных здольнасцей не мела, таму пра кар'еру балерыны давялося забыць. У балет творца вярнулася, але ўжо ў якасці фатографа. І гэта было пачаткам новага этапу жыцця, бо яе «балетныя» фотаздымкі неаднойчы былі адзначаны і займалі прызавыя месцы на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, такіх як «Фотаадкрыццё — 2014», «Фота Беларусі — 2016», «*Adme Photo Awards 2016*» і іншых. Цяперашні праект Вольга вырашыла прэзентаваць па частках.

**Вікторыя АСКЕРА**

Дайджэст

• Тэатр эстраднай песні «Хвілінка» атрымаў Гран-пры на ІІ Міжнародным фестывалі дзіцячай творчасці «Несебр — Востраў мастацтваў-2016», які завяршыўся ў Балгарыі. Беларускія артысты абышлі ў творчым змаганні вакальныя ансамблі і сола-выканаўцаў з шасці краін. Цікава, што вядучы саліст «Хвілінкі», 13-гадовы Аляксандр Мінёнак, стаў таксама адным з фіналістаў нацыянальнага адборачнага тура дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2016». Конкурсная песня Аляксандра называецца «Музыка маіх перамог».

• У межах чарговага конкурсу двайнікоў Эрнэста Хэмінгуэя, што праводзіцца ў горадзе Кі-Уэст, пераможцам стаў цёзка класіка сусветнай літаратуры — Дэйв Хэмінгуэй. Конкурс праводзіўся ў 36-ы раз, аднак пераможца з прозвішчам, тоесным прозвішчу пісьменніка, сустрэўся ўпершыню. Дэйв Хэмінгуэй адразу зазначыў, што не даводзіцца родзічам аўтару «Старога і мора». Пры гэтым ён з'яўляецца вялікім аматарам творчасці Эрнэста Хэмінгуэя. Незвычайны конкурс праводзіцца ў Кі-Уэсце з той нагоды, што тут знаходзіўся дом пісьменніка. Тут Хэмінгуэй напісаў некалькі сваіх знакамітых раманаў, у тым ліку — «Па кім звоніць звон».

• Вынаходлівыя ўлады расійскай сталіцы задумалі інтэрактыўны праект пад назвай «Зведай Маскву», дзякуючы якому ўладальнікі смартфонаў змогуць далучыцца да цікавай асветніцкай гульні. Дзеля гэтага трэба будзе запампаваць на свой гаджэт адапаведную праграму, якая шмат у чым нагадвае папулярную сёння *Pokemon Go* і ў пэўным сэнсе з'яўляецца адказам на яе. Сутнасць праграмы ў тым, што карыстальнік, атрымаўшы папярэднія дадзеныя, павінен адшукаць на вуліцах сталіцы гістарычнага персанажа — ад Івана Жахлівага да Аляксандра Пушкіна. Дзеля гэтага спатрэбяцца пэўныя веды па літаратуры і гісторыі. Узнагарода ўпартаму шукальніку — сэлфі з персанажам. Маскоўская мэрыя выказвае ўпэўненасць, што такая гульня будзе не толькі больш цікавай за *Pokemon Go*, але і нашмат больш карыснай, бо ўзбагаціць веды жыхароў і гасцей сталіцы. Старт праекта прызначаны на жнівень.

• Памяць класіка брытанскай літаратуры Оскара Уайльда ўшануюць на яго радзіме публічнымі чытаннямі. Чытаць будуць «Турэмную споведзь», а пляцоўкай для ажыццяўлення праекта абраная былая турма ў Рэдынгу, дзе адбываў двухгадовы тэрмін Оскар Уайльд. На турэмнае зняволенне пісьменнік быў асуджаны за інтымную сувязь з паэтам і лордам Альфрэдам Дугласам. З-за кратаў Уайльд пісаў пранізлівыя лісты свайму каханаму, дзе, апроч іншага, утрымліваліся папрокі ў здрадзе. Аб'ём «Турэмнай споведзі» ў выніку склаў сто старонак. У маштабным праекце збіраюцца прыняць удзел вядомыя ў пісьменніцкім, тэатральным і музычным свеце асобы. У іх ліку — спявачка Паці Сміт, рэжысёр Ніл Бартлет, паэт Лемн Сісо. Чытанні будуць праходзіць па нядзелях, уваход для публікі — бясплатны, тэрміны правядзення — з 4 па 30 верасня. Мяркуецца, што ўсе міні-спектаклі будуць запісаныя кампаніяй *BBC* і пазней прагучаць у радыёэфіры.

• Па пастанове расійскага суда на карысць дзяржавы будзе канфіскаваная ўся маёмасць пісьменнікаў у знакамітым пасёлку Перадзелкіна. Дасюль маёмасць належала Расійскай літаратурнай арганізацыі. Суд вырашыў, што літаратурная супольнасць не з'яўляецца спадчыннікам Саюза пісьменнікаў СССР і апошнія 15 гадоў нелегальна выкарыстоўвала маёмасць СП (уключаючы продаж і арэнду). Па словах кіраўніка супольнасці Івана Пераверзіна, Перадзелкіна зараз актыўна забудоўваецца катэджамі. Пасёлак літаратараў займае 44 гектары, якія ацэньваюцца ў велізарныя сумы. Усе будынкі вядомага культурнага цэнтра могуць пайсці пад знос. Пераверзін мае намер падаць апеляцыю. Пісьменніцкі гарадок быў створаны ў 1934 годзе. У ім пражывалі ў розныя часы Чукоўскі, Бабель, Еўтушэнка і іншыя вядомыя аўтары. Некаторыя дамы пазней сталі музеямі-філіяламі Дзяржаўнага літаратурнага музея.

# Родны кут: азёрны

Працяг. Пачатак на стар. 1.



Возера Недрава.

## Ля броду старажытнага

Вабяць вока жывапісныя ландшафты Браслаўшчыны. У гэтых мясцінах шмат ледавіковых формаў рэльефа, характэрных для беларускага Паазер'я. З 1995 г. тут месціцца Нацыянальны парк «Браслаўскія азёры».

Паводле адной з версій, назва Браслаў паходзіць ад латышскага *brasl* — брод. Літаральна Браслаў — «пасяленне ля броду». У складзе Браслаўскіх азёр, адной з найбуйнейшых азёрных груп Беларусі, больш як паўсотні вадаёмаў, звязаных між сабою шматлікімі ручаямі, рэчкамі, пратокамі працягласцю 300 з лішнім кіламетраў.

Што да саміх вадаёмаў, то яны вельмі адрозніваюцца адзін ад аднаго не толькі знешнім аблічам, але і колерам, і нават пахам вады.

Шмат легенд і паданняў звязана з Браслаўскімі азёрамі. Так, у паўднёваўсходняй частцы возера Неспіш ёсць востраў Манастыр (Кляштор). Да XIX стагоддзя тут месціліся будынкі ўніяцкага (першапачаткова праваслаўнага) манастыра, які ў 1832 годзе згарэў дашчэнту ад удару маланкі. Паводле адной з легенд, так за сквапнасць і жорсткасць былі пакараныя манахі, якія замкнулі ў падвале жабракоў, што прасілі міласціну ля сцен манастыра. А назвы Паўночны Волас і Паўднёвы Волас этнографы звязваюць з імем язычніцкага бога Вялеса — гаспадара царства мёртвых.

Адзін з заліваў возера Недрава называюць імем Святой Тэрэзы. Існуе легенда, згодна з якой на беразе возера жыла дзяўчына Тэрэза з блакітнымі вачыма і доўгімі-доўгімі залацістымі валасамі. Усім яна дапамагала, месцічаў замовамі ды травамі лекавала. За гэта і называлі яе Святой. Аднойчы Тэрэза мыла ў крыштальна чыстых водах Недрава бялізну. А пасля вырашыла пакупацца. Заплыла на сярэдзіну возера — і… пайшла на дно: страціла прытомнасць. Вось і называецца заліў яе імем.

А карані легенды пра возера Струста, відаць, балцкія — вельмі ўжо незвычайныя імёны яе герояў, нетыповыя для славян. Дзяўчына па імені Струста пакахала хлопца Шова. Калі той сыходзіў на вайну, пабяцаў каханай, што вернецца жывым. Але час ішоў, іншыя вярталіся дадому, а Шова ўсё не было. Плакала Струста няўцешна — цэлае возера наплакала. І ў рэшце рэшт не вытрымала яе сэрца. Выйшла дзяўчына на азёрны бераг, паглядзела ў апошні раз на зоры і кінулася ў ваду. Там, дзе яна загінула, і з'явіўся востраў, названы востравам Шова…

Сюды варта прыехаць толькі дзеля таго, каб спазнаць таямніцу. Таямніцу празрыстай вады.

## Дарога праз Нарач

Нарач — самае вялікае і самае прывабнае для турыстаў возера Беларусі, адно з самых чыстых і празрыстых у нашай краіне. А самы цікавы факт з гісторыі возера (і, адпаведна, Мядзельскага краю) — звесткі пра нарачанскую кулгрынду — брукаваную дарогу, якая пачыналася ля вёскі Наносы і, магчыма, праходзіла праз азёры Мястра і Мядзел да самага Мядзела.

Нарачанская кулгрында, брукаваная шчыльна пакладзенымі камянямі, знаходзілася на глыбіні прыкладна 125 см ад паверхні вады і ўзвышалася над дном возера прыкладна на 160 см. Праехаць па дарозе маглі адначасова чатыры запрэжаныя коні.

Мясцовыя жыхары называлі дарогу Чортавай грэбляй і былі ўпэўнены, што каменную граду пабудавалі нячысцікі. Але насамрэч падводныя дарогі часта ўваходзілі ў сістэму фартыфікацый выспаваў гарадзішчаў на балцкіх землях. Мядзел — памежны горад Полацкага княства ў X стагоддзі — проста павінны быў мець сваю кулгрынду, тым больш што выспавае гарадзішча тут дакладна было. Умацаванае паселішча знаходзілася на выспе Замак у возеры Мядзел і неадройчы даследавалася гісторыкамі і археолагамі.

Мокрыя грывы коней, свежы вецер, пырскі вады і блакітная роўнядзь навокал… Адноўленая падводная дарога, па якой можна было б праехаць у карэце ці брычцы, зрабіла б Нарач унікальным турыстычным аб'ектам і яскрава нагадвала б гасцям пра адметную гісторыю нашай краіны. Вядома, аматары актыўнага адпачынку і сёння могуць цікава бавіць час на возеры: яхты, байдаркі, каноэ, верталётная экскурсія над Нараччу. Можна і проста атрымліваць асалоду ад сузірання прыроды: дагледжаныя паркі са скульптурамі побач з санаторыямі, лес, гордыя лебедзі на хвалях…

Возера Нарач стала прывабным месцам адпачынку яшчэ ў часы Другой Рэчы Паспалітай. Тут будаваліся рэстараны, яхт-клубы, шыкоўныя дамы. Але не ўсім пашанцавала на бесклапотнае жыццё: мясцовыя жыхары баставалі супраць рашэнняў Дырэкцыі дзяржаўных лясоў, якая забараніла свабодна лавіць рыбу. Польскія паліцэйскія рыхтавалі матэрыялы да судовых спраў, члены Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі актыўна падтрымлівалі сялян. З нагоды выступлення рыбакоў Максім Танк у 1937 годзе напісаў паэму «Нарач» — яе радкі ўпрыгожваюць большасць сайтаў, прысвечаных адпачынку на цудоўным возеры.

Часта згадваюцца і легенды пра Нарач. Паводле адной з іх, азёры Мядзельшчыны ўтварыліся з аскепкаў чароўнага люстэрка, якое выпала з рук прыгажуні Галіны, калі дзяўчына даведалася пра смерць каханага Васілька. Васілёк выратаваў дзяўчыну ад заляцанняў старога пана. Паводле іншай легенды, ненавісная пана забівае сама дзяўчына і гіне ў возеры. Возера пачынаюць называць Нараччу ад імя дзяўчыны — Нара.

## Чараўніцтва містычнага возера




Амаль у цэнтры Навагрудскага ўзвышша і за некалькі кіламетраў ад вёскі Валеўка раскінулася сапраўдная перліна — возера Свіцязь. Прыгожы пейзаж, маляўнічыя берагі і пышная лясная расліннасць ствараюць арэол загадкавасці. Магутныя дубы-гіганты «шэпчуць» пра тысячагадовыя загадкі возера і навяваюць легенду пра нескароны горад. Паводле апошняй, у часы першага вялікага князя літоўскага Міндоўга (XIII ст.) на месцы возера стаяў горад Свіцязь, у якім правіў князь Туран. Аднойчы Міндоўг выклікаў свіцязьскую дружыну дапамагчы абараняць Навагрудак ад чужынцаў. Туран, падпарадкоўваючыся абавязку, пакінуў горад на жанчын, старых і дзяцей. Калі да Свіцязі падышла варожая раць, жыхары вырашылі супраціўляцца, але, не маючы магчымасці ўтрымаць горад, сталі падпальваць дамы. У гэты момант горад праваліўся ў возера, што ўтварылася на яго месцы. Усе жыхары ператварыліся ў кветкі, а ворагі, якія дакраналіся да іх, паміралі. Так насельнікі Свіцязі пазбеглі ганьбы няволі. Іншая версія легенды пра возера адлюстравана ў баладзе Тамаша Зана «Свіцязь-возера», напісанай у 1820 годзе па матывах народнага падання.

Гэтыя мясціны звязаны з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча. Непадалёк ад возера, у вёсцы Карчэва, была сядзіба Тугановічы, якая з XVII да сярэдзіны XIX стагоддзяў належала шляхецкаму роду Верашчакаў. Адам Міцкевіч гасцяваў тут кожнае лета з 1815-га па 1820 год.

Вада ў гэтым возеры адрозніваецца крышталёвай чысцінёй, хаця ў яго не ўпадае ні адна рэчка. А ў сонечныя дні можна ўбачыць высланае пяском дно і… мастаўую нескаронага горада. Дзіўная прыгажосць гэтага куточка прыцягвае — асабліва турыстаў.

## Што хаваюць лепельскія воды?

На званне беларускага Лах-Нэса з нядаўняга часу можа прэтэндаваць Лепельскае возера, што ў Віцебскай вобласці. Натхнёны Караткевічам, мясцовы краязнаўца Уладзімір Шушкевіч натхніў і іншых на стварэнне помніка таму самаму цмоку, што згадваецца ў першым раздзеле рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Твор скульптара Льва Аганава можна пабачыць на беразе Лепельскага возера (цяпер — самы папулярны фотаракурс у турыстаў): дзіўны з выгляду, але абсалютна кананічны, па Караткевічу, цмок. Галоўнае — добры.

Зрэшты, усмешка цмока вабіць далёка не ўсіх: мясцовыя святары не раз выказвалі абурэнне, маўляў, ушаноўваеце ўсялякую нечысць. Аднак турыстам гэта не замінае наведваць міфалагічны фестываль «У госці да Лепельскага цмока», які сёлета пройдзе 21 жніўня. Суседства з вялікім прахалодным возерам падчас гарачага свята вельмі дарэчы. Натоўпы гасцей віруюць падчас фестывалю якраз паміж ім і амфітэатрам. Да возера ў першую чаргу кіруюцца музыкі пасля выступу. Па яго хвалях увечары плывуць сярэднявечныя ладдзі (яшчэ адно прывітанне Караткевічу).

Але і без цмокаў Лепельскае возера мае даволі адметнасцяў. Яно трэцяе ў Беларусі па працягласці берагавой лініі — пасля Нешчэрды і Нарачы. Гэтаксама на тры дзеліцца самое возера: Кусцінскае, Гарадское і Белае. На супрацьлеглым ад сучаснага Лепеля баку возера некалі знаходзілася паселішча Белае (Стары Лепель). Там быў замак, разбураны маскавітамі падчас Лівонскай вайны. Але не ўсё так сумна: у 1564 годзе адбылася пераможная для вялікалітоўскага войска бітва з маскоўскім корпусам Шуйскага — на рацэ Уле. Разам з перамогай пад Дуброўна гэтая бітва сарвала вялікі маскоўскі паход 1564 года. Дадамо толькі, што Ула ўпадае ў Лепельскае возера. Гэтаксама, як і рака Эса, якая была часткай Бярэзінскай воднай сістэмы, у канцылярыі якой, у сваю чаргу, працаваў пэўны час Ян Чачот.

Завітаўшы на Лепельскае возера, не палянуйцеся паглядзець Святое. Яно — адзін з прыкладаў папулярнай у Беларусі легенды пра патанулыя гарады. У лепельскім варыянце святар павянчаў маладых насуперак Божаму закону — і такое радыкальнае пакаранне атрымаў горад за дабрыню і чалавечую спагаду. Між старажылаў і сёння ходзіць погалас, быццам у купальскую ноч ды некаторыя іншыя са дна возера чутны царкоўны звон.

## Усё багацце Князь-возера

Трэцяе па велічыні возера Беларусі і самае вялікае на Палессі — у Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці. Яму прысвячалі паэмы, і нават ёсць балет з такой назвай (В. Залатарова). А Юрка Віцьбіч пералічвае усе тры паданні, якія тлумачаць паходжанне назвы: «…Возера належала калісьці князём Алелькавічам-Слуцкім. Адзін з гэтых князёў зненавідзеў роднага брата і пасадзіў яго ў замак, адмыслова для гэтае мэты пабудаваны пасярэдзіне возера. Велізарная паводка разбурыла гэты замак, пахаваўшы пад ягонымі крушнямі зняволенага князя. Адсюль і паходзіць першы назоў — Князь».

Уладзімір Караткевіч у «Зямлі пад белымі крыламі» піша: «Цікавей за ўсё тое, што пад гэтай легендай хаваюцца нейкія рэальныя абставіны і падзеі, нейкае зерне ісціны. Нешта такое павінна было адбыцца тут у незапомныя часы. Бо вакол возера балота дасягала на пачатку XX ст. чатырохсот квадратных вёрстаў. Бо яшчэ вядомы вучоны XIX ст. Адам Кіркор гаворыць, што ў возера вядуць каменныя і драўляныя дарогі, якія знікаюць у глыбіні… Вось бы ўзяць акваланг ды паныраць, памацаць усё ўласнымі рукамі! Нават нягледзячы на каламутную ваду».

Можа, вада мутнаватая, а возера зусім не глыбокае (да 1 метра глыбінёй) таму, што хавае пад сабой далёкае мінулае? Вада ў ім можа здавацца чорнай. Возера з'яўляецца крыніцай здабычы ў Беларусі карысных і каштоўных сапрапеляў, якіх, паводле звестак, хопіць на 300 — 400 гадоў — рэальнае багацце захоўвае старажытны Князь. Відаць, згадкі пра беларускую старажытнасць у назве не надта пасавалі савецкай рэчаіснасці, і возера ў 30-я гады перайменавалі ў Чырвонае.

Вабіць яно не толькі маляўнічасцю: гэта яшчэ і самае рыбнае возера на Палессі. Да таго ж яно прыцягальнае для рэдкіх відаў птушак і жывёл (сярод іх ёсць занесеныя ў Чырвоную кнігу), існаванне якіх звязана з балотнымі экасістэмамі. Таму возера для рыбакоў і развіцця паляўнічага турызму. І для тых, хто праз легенды і паданні пазнае сваю краіну.

# За томам — том

## Творцы ў часе і прасторы

**Знаёмства з працягам твора — як спатканне з добрым знаёмцам. Асабліва калі раней прачытанае па-сапраўднаму ўразіла. Тое ж тычыцца кніг, якія не абмяжоўваюцца першым томам. Сёй-той можа запярэчыць: колькі тых шматтомных «эпупей», расцягнутых, быццам гума. Але гума вяртаецца ў першапачатковае становішча, а якасная літаратура імкнецца наперад, «абрастаючы» працягам. Да такой адносяцца «Постаці» Зіновія Прыгодзіча.**



*Зіновій Прыгодзіч.*

### ТРОЙЧЫ ДЗЕСЯЦЬ

У 2011 годзе выйшаў першы том «З цэлым народам гутарку весці…». У 2014-м пабачыў свет другі — «Сэрца мільёнаў падслухаць біцця…». І вось — трэці — «Гэткай шукаю цэлы век чэсці…». Да месца назваць «хросных» бацькоў гэтых кніг: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», Выдавецкі Дом «Звязда», выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Даючы зялёнае святло першаму тому, Алесь Карлюкевіч разважаў ва ўступным артыкуле да яго: «Не пабаюся заўважыць, што кніга “Постаці: З цэлым народам гутарку весці…” — несумненная творчая ўдача пісьменніка. Гэта кніга, якая, маю спадзяванне, зойме адметнае месца ў беларускім прыгожым пісьменстве… Бо яна пра тых, каго мы называем Творцамі, Падзвіжнікамі нацыянальнай культуры».

Тады, першым разам, з чытачом «сустрэліся» дзесяць найвыдатнейшых нашых сучаснікаў, сярод якіх — Марыя Захарэвіч, Адам Мальдзіс, Янка Сіпакоў... Не менш прадстаўнічы другі том «Постацяў». Лічбы «10» Зіновій Прыгодзіч трымаецца і гэтым разам, распавядаючы пра Генадзя Бураўкіна, Васіля Быкава, Аляксея Дударава, Мікалая Пінігіна, Леаніда Шчамялёва і інш.

Выбар герояў сведчыць пра рознабаковы інтарэс аўтара, пра тое, як добра арыентуецца ён у сучаснай культурнай прасторы, звяртаючы ўвагу найперш на каларытныя асобы, незалежна ад іх поглядаў на грамадскія працэсы ў краіне. Адзіны для яго крытэрый — талент, і толькі талент.

### ПРЫГОЖАЕ — ПРАЗ ОПЕРУ

Пра кожнага, хто прадстаўлены ў «Постацях…», можна гаварыць шмат. Зрэшты, куды больш гавораць яны самі: гэта менавіта гутаркі, размова, калі субяседнікі адчуваюць сябе на роўных. Яны аднолькава зацікаўленыя ў праблемах, што ўздымаюцца, ахвотна прыгадваюць найбольш значнае, памятнае, а то і нечаканае.

Гэта стала магчымым найперш таму, што ў якасці субяседнікаў Зіновій Кірылавіч узяў тых, каму ёсць пра што сказаць і хто ўмее свае думкі, погляды, развагі падаць належным чынам. Аднак важна, канечне, не толькі гэта. Многае залежыць і ад «другога боку». І тут З. Прыгодзіч нязменна трымае планку. Ён умее разгаварыць чалавека. Як і ўмее скіраваць размову менавіта ў такое рэчышча, дзе ад яе будзе большая карысць, лепшая выніковасць.

Істотная тут гатоўнасць задаваць, мякка кажучы, нязручныя пытанні. Нават не столькі для свайго суразмоўцы, колькі для самога сябе. Асабліва ў выпадках, калі пытанні тычацца сферы не надта табе блізкай. Падобнае заўважна ў размове з выдатнай опернай спявачкай Аксанай Волкавай «Мне важна, што я раблю сёння». Прызнаюся шчыра: я не належу да прыхільнікаў гэтага віду музычнага мастацтва. Дый З. Прыгодзічу куды бліжэйшая літаратура. Тым не менш гаворка прайшла на ўзроўні. Справа не толькі ў папярэдняй падрыхтоўцы — са спявачкай размаўляе пісьменнік, журналіст, для якога паняцце прыгожага ў самых розных яго праявах значыць вельмі шмат. У асобных выпадках ён інтуітыўна адчувае, пра што абавязкова трэба пагаварыць. Таму нават той, хто асабліва операй не захапляецца, пазнаёміўшыся з гутаркай «Мне важна, што я раблю сёння», зразумее, адчуе непаўторнасць опернага мастацтва.

### АРЫЕНЦІР, ЯКІ НЕЛЬГА МЯНЯЦЬ

Куды больш вольна З. Прыгодзіч адчувае сябе ў гутарках з прадстаўнікамі нацыянальнага прыгожага пісьменства. Тут для яго ўсё сваё, усё блізкае, бо і ў самога важкія набыткі ў літаратуры — аўтар многіх кніг публіцыстыкі, прозы, паэзіі. У свой час на ягоную творчасць звярнуў увагу народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, а ён быў вельмі строгі ў ацэнках.

З асаблівым пачуццём перагортваеш старонкі жыццёвага і творчага лёсу тых, хто пайшоў ужо ў лепшы свет. Генадзь Бураўкін: «Век, адведзены мне, я пражыў не дарма…». Васіль Быкаў: «Літаратура — гэта вечавы звон». Пра абодвух, асабліва пра В. Быкава, напісана шмат. Нямала друкавалася і інтэрв'ю. Але З. Прыгодзіч нікольні не паўтараецца, бо ў гаворцы і з Г. Бураўкіным, і з В. Быкавым найперш канцэнтруецца на тым, пра што сказана менш, што абыходзілася ўвагай.

Дарэчы, пад гаворкай з Васілём Уладзіміравічам значацца дзве даты: 1988, 2006. Тут важнае сведчанне З. Прыгодзіча: «Фрагмент гэтага інтэрв'ю […] быў апублікаваны на старонках газеты “Советская Белоруссия”. А сёння падаю тэкст у поўным аб'ёме, без усялякіх купюр». Тым больш значная вартасць публікацыі. Гэта лішні раз пацвярджае слушнасць меркавання, што напісанае не прападае марна, напісанае застаецца.

Надзвычай значныя меркаванні В. Быкава пра тое, як стасуюцца між сабой праўда жыцця і праўда мастацтва. Спачатку Васіль Уладзіміравіч адзначыў, што *«праўда жыцця — гэтай той ідэал, да якога імкнецца мастацтва. Рэалістычнае мастацтва, я маю на ўвазе»*. Пасля развіў думку: *«Але справа ў тым, што праўда жыцця настолькі шматгранная, настолькі складаная і глыбокая, што дасягнуць яе ўдаецца далёка не кожнаму і не ў кожным творы. Мы ведаем прыклады, калі ўся творчасць нават вельмі таленавітага мастака (мастака ў шырокім сэнсе слова) з'яўлялася не чым іншым, як менавіта спробай наблізіцца да гэтага ідэалу, да праўды жыцця.*

*Але, зразумела, кожны набліжаецца па-свойму, у адпаведнасці са сваім талентам. Адзін вельмі блізка, другі — магчыма, напалову, а трэці робіць толькі першыя крокі ў гэтым накірунку.*

*Тым не менш у рэалістычным мастацтве праўда жыцця заўсёды ёсць той ідэал, запаветны арыенцір, да якога яно імкнецца…».*

### ЧЫМ НЕ ПАДРУЧНІК

У сувязі з гэтым не магу не звярнуць увагу вось на што... Падобную думку выказаў у прадмове да першага тома «Постацяў» А. Карлюкевіч: «Разглядаю кнігу “Постаці…” яшчэ і як варты ўвагі студэнтаў Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта самы сур'ёзны падручнік». Падручнік, дадам, своеасаблівага кшталту. Такі, які дае ўяўленне пра выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры. Але адначасова кнігі «Постаці» могуць стаць і падручнікам па журналісцкім майстэрстве. Як лепш задаць суразмоўцу тое ці іншае пытанне, як пры гэтым выклікаць яго на давер… Пра гэта, вядома, З. Прыгодзіч не гаворыць у лоб. Як не гаворыць і пра тое, што ў гутарках да месца разнастайныя адступленні: публіцыстычныя, аналітычныя, нарэшце, лірычныя. Не падкрэслівае, наколькі да месца меркаванні пра пэўнага суразмоўцу (ці іншых людзей). Меркаванні гэтыя аўтар прыводзіць у свайго роду ўступах да саміх гутарак.

Між іншым гэтыя ўступы — зусім не традыцыйныя некалькі слоў, прыведзеныя для таго, каб чытач атрымаў агульнае ўяўленне пра канкрэтнага чалавека. Гэта ў пэўнай ступені і занатоўкі да крытычных артыкулаў, і міні-даследаванні, і публіцыстычныя развагі — як пра творчасць канкрэтнага дзеяча, так і пра яго месца ў часе і прасторы. Такая багатая насычанасць думкамі, развагамі, абагульненнямі таксама пойдзе на карысць тым, хто збіраецца прысвяціць сябе журналістыцы, літаратуры. Але, зноў жа, З. Прыгодзіч не дае гатовыя парады. Усё гэта лагічна вынікае са сказанага ім, і ўсё гэта шмат у чым мае большае значэнне, чым некаторыя лекцыі ў ВНУ.

### НАПРОШВАЕЦЦА ПРАЦЯГ

Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, гутарка з якой змешчаная ў першай кнізе «Постацей», афарыстычна вызначыла сутнасць сваёй працы: «Навошта той талент, калі няма сэрца...». Гэтае выказванне добра стасуецца і з тым, чым жывуць, як працуюць, якімі памкненнямі напоўнены героі ўсіх гутарак З. Прыгодзіча. Талент — асаблівая катэгорыя. Лепей зразумець ягоную сутнасць дапамагаюць «Постаці...».

Рэцэнзуючы другі іх том на старонках «ЛіМа», я выказаў меркаванне кшталту «добра было б, каб з цягам часу з'явілася трылогія гутарак...» Такая трылогія, як бачым, ужо ёсць. Цяпер, бадай, таксама трэба спадзявацца на працяг. Яшчэ нямала яркіх творцаў, дзеячаў нацыянальнай культуры, гутаркі з якімі будуць цікавыя шырокаму колу чытачоў.

...Часцей за ўсё новыя гутаркі З. Прыгодзіч апрабоўвае на старонках «Полымя». Рэгулярна знаёмячыся са свежымі нумарамі часопіса, можна напаткаць матэрыялы, якія пакуль у «Постаці» не трапілі. Верагодна, яны і складуць кнігу чацвёртую. Застаецца пажадаць аўтару творчага поспеху.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

*Дарэчы*

## Імёны гісторыі

Нацыянальнае адраджэнне, Вялікае Княства Літоўскае, беларуская літаратура... За агульнымі назвамі ды паняццямі заўжды стаяць асобы. І менавіта веданне асобаў (у пэўным сэнсе — твар да твару), дае пачуццё асабістага, пачуццё прыналежнасці да культуры, іншымі словамі — роднасці.

• У спісе такіх асабовых ды «асабістых» кніг найперш трэба назваць «Імя ў летапісе». Створаная гісторыкам і пісьменнікам Вітаўтам Чаропкам і выдадзеная ў 1994 годзе, яна сталася настольнай для некалькіх пакаленняў школьнікаў (а можа, і не толькі іх). Больш за дваццаць гістарычных фігур: адным адведзеныя некалькі старонак, іншым — цэлыя раздзелы, якія насамрэч ператвараюцца з гістарычных нарысаў у міні-раманы, драматычныя, захапляльныя. Дзякуючы «Імёнам у летапісе» туманныя, аддаленыя вобразы Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, іншых вялікіх князёў ды літоўскіх ваяроў сталіся блізкімі — толькі працягні руку, адгарні старонку.

• Працягам — і ідэйным, і храналагічным — сталася наступная кніга Вітаўта Чаропкі «Уладары Вялікага Княства». Аўтар паранейшаму прытрымліваецца мастацкай формы, у нечым рамантызуе героя — і з тым робіць яго чалавечным, жывым. Пераемнікамі легендарных вояў сталі дзеячы XVI — XVII стагоддзяў: Міхайла Глінскі, Канстанцін Астрожскі, славутыя браты Радзівілы, Леў Сапега ды многія іншыя. Так, праз лакальныя гісторыі асобных людзей, складаецца ва ўяўленні чытача агульная Гісторыя.

• Праз постаці распавядае пра беларускую гісторыю Анатоль Мяснікоў. Кніга яго так і называецца — «Сто асоб беларускай гісторыі» (2009). У параўнанні з Чаропкам Мяснікоў не такі маляўнічы і не такі глыбокі. Ён надзвычай эмацыянальны ў расповедах (што, прызнацца, часам замінае) і не мае магчымасці заглыбіцца ў гісторыю: храналагічны ахоп выдання — з сівой даўніны і ажно да сучаснасці. Але як гістарычная анталогія, уступ-азнаямленне да навукі «Сто асоб...» — вельмі карысная кніга.

• Па той жа схеме выбудаваная другая кніга Анатоля Мяснікова «Сто асоб беларускага спорту». Як паведамляе анатацыя, гэта «ўнікальнае выданне. Правёўшы дзесяткі сустрэч і гутарак са сваімі будучымі героямі,пазнаёміўшы за імі падчас іх трыумфальных выступленняў на арэнах многіх краін Еўропы і свету, аўтар прапануе чытачу біяграфічныя партрэты, заснаваныя на эпізодах і фактах з іх такога напружанага, багатага на падзеі жыцця».

• Асобнай увагі вартыя зборы аўтабіяграфій — кшталту «З росных сцяжын» 2009 года, дзе пра сябе распавядаюць пісьменнікі. Адзін тэкст дае адразу дзве магчымасці: даведацца ўласна факты жыцця аўтара і ў той жа час прыадкрыць для сябе асаблівасці яго характару («стыль і ёсць чалавек» — старое і праўдзівае выказванне). У названым выданні распавядаюць пра сябе Раіса Баравікова, Зінаіда Дудзюк, Алесь Жук, Анатоль Казлоў, Яўген Крупенька, Васіль Макарэвіч, Алесь Наварыч, Алесь Пісьмянкоў, Вячаслаў Рагойша... — усяго 54 персаналіі.

# Алесь Салагуб. У чырвані радкоў

Імя заходнебеларускага паэта Алеся Салагуба ў беларускай літаратуры нязвыклае, а для большасці чытачоў і наогул невядомае. Нешта падобнае можна сказаць пра ўвесь культурны бок жыцця Заходняй Беларусі. Дый што гэта — «Заходняя Беларусь»? Колішнія «крэсы ўсходнія»? Ці альтэрнатыўны шлях развіцця Беларусі? Адказ на гэтае пытанне, грунтоўны і ўсебаковы, без палюсных ідэалагічных хістанняў, мы, беларусы, пачалі даваць зусім нядаўна. Калі ж будзе нанава адкрывацца той свет, будуць адкрывацца і забытыя калісь імёны, вартыя памяці. У шэрагу такіх і імя паэта Алеся Салагуба.

Трэба адзначыць, што імя Алеся Салагуба не было ў поўным забыцці. Праз 5 год пасля рэабілітацыі, у 1961-м, некалькі ягоных вершаў былі змешчаныя ў анталогіі беларускай паэзіі. У тым жа годзе дзякуючы Уладзіміру Калесніку ў часопісе «Полымя» надрукаваныя фрагменты з «Лукішскага дзённіка» з прадмоваю самога літаратуразнаўцы. У 1962 і 1982 гадах у свет выйшлі дзве кнігі літаратурных нарысаў і партрэтаў «Час і песні» і «Лёсам пазнанае» зноў жа Уладзіміра Калесніка, дзе Алесю Салагубу прысвечаныя два асобныя вялікія раздзелы. Таму для літаратуразнаўства імя гэтае не новае.

А для чытача? Мусіць, так. Чаму? Магчыма, прычына хаваецца ў самой паэзіі Алеся Салагуба, для якой характэрна моцная ідэалагічная заангажаванасць, якая разам з публіцыстыкай год ад году радыкалізоўвалася. Чаго толькі вартыя назвы публіцыстычных артыкулаў пачатку 1930-х:



Партрэт А. Салагуба. 1932 г.

«У баях за дыктатуру пралетарыяту», «У полымі класавай барацьбы», «Паноў трэба знішчаць гуртам». Таму паэзія кшталту:

*Мы гутарым без слоў.*
*— Як справа?*
*— Як з ячэйкай?*
*— Мо правалы?*
*А над табой*
*Снуюць,*
*Снуюць*
*«Дазорцы канавалы»*

з вышыні нашага часу здаецца ўжо наіўнай, а часам нават і недарэчнай. Але трэба прызнаць, што праз каменныя муры камуністычнага пафасу прабіваецца і іншы Алесь Салагуб. Глыбока лірычны, такі, якім ён быў напачатку. Напрыклад, у вершы, прысвечаным яго каханай Марысьцы Дзяздко:

*Ці помніш пару красавання?*
*І шэлест буйных каласоў?*
*Ты падарыла каханне —*
*Першы дзявочасці сон.*

*Мне васілёк прышпіляла*
*Чысты, як пацерку слёз.*
*Знаю, ты шчыра кахала*
*Край летуценняў і кроз.*

*Рвалі ў садзе мядункі.*
*Сэрцы жадалі згарэць.*
*Помніш? Я краў пацалункі,*
*Ты ж усміхалася мне.*

*Моладасць лёгкай імглою*
*Дзесь уцякла ў нябыт.*
*Проза разбурыла мроі,*
*Як хваля нязвязаны плыт.*

Усё ж такі гэта выключэнне з правіл. І, хто ведае, што было б, каб чулы лірык не саступіў дарогу «чырвонаму» паэту?

Дык які ж унёсак Алеся Салагуба ў беларускую літаратуру? Як на мой пагляд, галоўнае месца ў творчай спадчыне паэта і публіцыста належыць «Лукішскаму дзённіку». На жаль, увесь рукапіс твора не апублікаваны і захоўваецца (прынамсі, захоўваўся на 1961 год) у бібліятэцы АН Літоўскай ССР. Таму можна меркаваць пра гэты тэкст толькі па вышэйзгаданых фрагментах, змешчаных у часопісе «Полымя». Чаго недастаткова для поўнага аналізу, але хапае, каб вызначыць ягоную вартасць. І ў першую чаргу — гістарычную, дзе з пэўнай доляй суб'ектыўнасці апісваецца побыт у Лукішскай турме, расклад турэмнага жыцця, стасункі паміж зняволенымі і начальствам. А таксама, няхай і павярхоўна, самое жыццё віленчукоў у канцы 1920-х гадоў. Са старонак дзённіка мы даведваемся, што елі арыштанты: селядзец, бульба, хлеб і несалоджаная кава. «Усе тры паверхі апанаваны беларускімі лапатнікамі-сялянамі». Даведваемся, хто былі суседзі па камерах, сярод якіх — вядомы ў будучыні беларускі паэт і перакладчык Міхась Машара, настаўнік спеваў Віленскай беларускай гімназіі Шнаркевіч.

Але найбольш уражваюць «курортныя» ўмовы ўтрымання зняволеных, асабліва пасля прачытання Геніюш, Грахоўскага, Салжаніцына, Шаламава і іншых. «Стараюся як мага лепш выкарыстаць час адседкі. Чытаю кнігі, раблю выпіскі». Альбо «чытаў лісты Розы Люксембург», «чытаў біяграфію Прудона», «прачытаў "Два мира" В. Лібкнехта», «прачытаў першы раздзел "Капітала" К. Маркса». Ці накшталт такога: «Шкада, што я не чытаю эсперанцкіх часопісаў. Думаю выпісаць у турму», «Напісаў podanie начальніку турмы, каб дазволіў карыстацца чарнілам. Паперу ўжо атрымаў», «Заўтра закрасуюцца чырвоныя значкі. Святкуем дваццацігоддзе КІМа», «Запісаўся да лекара, бо разбіў адзін акуляр». Пры гэтым Алесь Салагуб называе польскую ўладу «фашысцкай дыктатурай», а СССР — сваёй Бацькаўшчынай, у якой ён будзе расстраляны праз 7 год.

Не зважаючы на досыць суб'ектыўныя меркаванні Алеся Салагуба на тыя ці іншыя падзеі, учынкі людзей, «Лукішскі дзённік» — важнае сведчанне свайго часу, без якога гісторыя Заходняй Беларусі будзе няпоўнай.

**Андрэй ГОЛУБ**

**Даведка «ЛіМа»:**

Алесь (Аляксей) Феафілавіч Салагуб нарадзіўся 5 кастрычніка 1906 года ў в. Зарудзічы (цяпер Смаргонскі раён). У 1915-м вымушаны разам з сям'ёй уцякаць ад вайны, жыў у в. Ратамка пад Мінскам. Потым, як будзе пісаць пра ягонае жыццё Максім Гарэцкі, «не звяртаючы ўвагі ні на кулі, ні газы, вярнуліся ў родную вёску, дзе бачылі ўсе жахі імперыялістычнай вайны, перажылі окупацыю нямецкую і польскую». У 1920 годзе газета «Незалежная думка» змяшчае невялікі артыкул Алеся Салагуба «Культурныя паны». З гэтага моманту пачынаецца творчая біяграфія паэта. З 1922 па 1927-ы вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі. Падчас вучобы разам з будучым знакамітым мастаком-прымітывістам Раманам Семашкевічам выпускаў рукапісную газету «Рунь», у якой змяшчаў свае вершы і лірычныя абразкі. Друкуецца ў газетах Заходняй Беларусі і БССР. За распаўсюджванне камуністычнай літаратуры двойчы быў арыштаваны. Пакаранне адбываў у Стаафанаўскім астрозе (1924) і на «Лукішках» (1927 — 1928). У гэты час піша цыкл вершаў «Лукішкі», якія выйдуць асобнай кнігай у Мінску, і «Лукішскі дзённік». Пасля вызвалення ў 1928 годзе пераходзіць польска-савецкую мяжу. Паступае ў БДУ. У 1929 годзе выходзіць адзіны, вышэйзгаданы, зборнік вершаў Алеся Салагуба «Лукішкі». У 1931 годзе паступае ў аспірантуру Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. У 1933-м арыштаваны ДПУ і 9 студзеня 1934 як «вораг народа» расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

# Як пачыналася рака

**Новая кніга Анатоля Сыса. Выказванне з шэрагу патаемных чытацкіх мараў. Тым больш патаемных, што мара нязбыўная. Прынамсі, была, пакуль не выйшаў зборнік юнацкіх вершаў паэта.**

«Берагі майго юнацтва» рыхтаваліся яшчэ самім Сысом, калі таму было нешта каля дваццаці гадоў. Машынапіс зборніка ён даслаў на рэцэнзію ў Саюз пісьменнікаў і атрымаў водгук — адмоўны. Сёння можа напракнуць рэцэнзента Фёдара Яфімава: як так, не разгледзеў выключнага таленту, змусіў паэта адкласці ў шуфляду стос рукапісаў, якім так і не суджана было дайсці да чытача (да 2016 года, «Галіяфы»). Можна, але наўрад ці трэба, і наўрад ці справядліва. Бо вялікім паэтам тагачасны Анатоль Сыс яшчэ не быў. І сам усведамляў гэта, не раз выказваючы ў пачаткоўскіх вершах толькі прадчуванне палёту, называючы сябе прадпаэтам.

Адкінем апошнія трыццаць гадоў. Забудзем, хто такі Анатоль Сыс. Мы ўбачым самы што ні на ёсць пачаткоўскі зборнік — лірычны, патрыятычны, супярэчлівы. Сёння вагу яму надае імя аўтара, але не самі творы. Той Сыс яшчэ не дайшоў да трагічнага разлому, што адкрыў унікальны талент. Той Сыс упарта падладжваецца пад ціхі голас Багдановіча, эксперыментуе з санетам і іншымі строгімі паэтычнымі формамі, хоча быць рамантычным, вытанчаным, нават лагодным.

Кантрасны партрэт, калі супаставіць з вобразам чалавека, што напісаў «Я зжэр бы свой народ...», «Беларусь мая, мая магіла...».

«Берагі...» паказваюць талент, які толькі-толькі адкрываецца, становіцца на ногі, спрабуе голас. Голас падлеткавы, які гучыць то пяшчотна, то зрываецца на бас. У гэтых зрывах, якія парушаюць цэласнасць зборніка, дысануюць, і ёсць той паэт, які застаўся ў беларускай літаратуры з «Агменем», «Панам Лесам», «Сысом». Чаму ж ён адпачатку не давяраўся сабе, хаваўся за белым каўнерыкам? Магчыма, прычынай — натуральная патрэба мецць настаўніка, некаму наследаваць?.. Ці сапраўды ўпэўненасць у тым, што заснежаныя пейзажы, пошук любові і лірычная задуменнасць — адзіна верны шлях? Тут можна толькі развесці рукамі.

Тым не менш і ў гэтым зборнічку, што ў свой час прыбіўшоўся б даспадобы рафінаваным філалагіням, заўважная будучыня паэта. Гэта Маці як цэнтр Сусвету, адзіны чалавек, варты любові, ахвяравання. Гэта Радзіма, якая заўжды поплеч з Маці, і часам вобразы іх непадзельныя. Часта падобныя вершы з палымянымі патрыятычнымі прызнаннямі гучаць не тое каб няшчыра — хутчэй, у іх болей юнацкага запалу, чым рэальнага ўсведамлення, што ж менавіта ты прамаўляеш. Ты малады, значыць, мусіш змагацца, а калі змагацца, дык за Радзіму. У юнага Анатоля Сыса гучанне крыху іншае, яму верыш. Зрэшты, вялікую ролю тут усё ж грае ўсведамленне, што і пазней ён сваім словам не здрадзіць, што гэта не поза, але ён сам.

Другая цэнтральная тэма, якая таксама стане вызначальнай у творчасці Анатоля Сыса, — паэт. У юнацкіх вершах ён разважае на гэтую тэму «ад сябе», уголас дзеліцца спадзяваннямі, марамі, нюансамі самапачування як творцы. Ёсць у такіх развагах нешта наіўнае, але наіўнае светла. З падобным пачуццём (хочацца сказаць — заміланнем) назіраеш за першымі крокамі дзіцяці, ці спробай птушаняці стаць на крыло. Датычна Анатоля Сыса такія параўнанні крыху бянтэжаць (і мяне самую), але, паверце, у «Берагах...» ён якраз такі: кранальны. Пазней, у сталай творчасці, ракурс зменіцца: паэт як бы абстрагуецца ад сябе, пачне прамаўляць ад імені гістарычных асоб (згадаць «Маналог Апанаса Філіповіча», «Маналог Сяргея Палуяна»), пяройдзе да разваг пра паэта ўвогуле, прычым паэта ў відавочна беларускім гістарычным кантэксце. На змену кранальнасці прыйдзе трагізм.

Ёсць у «Берагах...» і славутыя паганскія матывы, якімі пазнавальная паэзія Анатоля Сыса. Тут яны яшчэ знітаваныя з адчуваннем непадзельнасці свету, так што і чыста паганскімі іх называць пакуль нельга. Сыс піша пра сваю неўміручасць, неўміручасць чалавека ўвогуле, якую дорыць яму кругазварот жыцця, роднасць з ліўнямі і снягамі. Адзін з наймацнейшых пачаткоўскіх вершаў — «Паляванне на родзічаў» — вельмі паказальны ў такім кантэксце. Ён жа разам з парай іншых тэкстаў уяўляе масток паміж пачаткоўцам і будучым Анатолем Сысом, паэтам незабыўным, які прыйшоў так дарэчы, а сышоў зачасна. Адзін з рэдкіх выпадкаў, калі пачатковец не падпадае пад уладу мовы і не ідзе за ёй, але ламае, стварае нанова, стварае будучага сябе.




Балючае пытанне я пакінула на апасля: навошта выдаваць юначыя, няспелыя вершы, тым больш — пасля смерці паэта? Тым больш, калі сам ён некалі паведаміў сябрам (яны ж — стваральнікі зборніка): мае першыя вершы спаленыя. Прыпісваць іншаму свае думкі не стану, але выкажу здагадку, што — хто ведае, быць можа — такі каментар Сыса сведчыў пра яго нежаданне публікаваць гэтыя тэксты?.. Так, мілыя юначыя вершы пісаў той жа Анатоль Сыс. І ў радках гэтых ён несумненна шчыры. Але шчырасць — яшчэ не мастацтва. Сам Анатоль Сыс быў заўзятым ахоўнікам паэзіі, пакепліваў са шматтомных і пладавітых калег. Думаецца, ён, як ніхто іншы, ведаў кошт добрага радка. Таму пры ўсёй радасці ад самога факта, што ёсць цяпер яшчэ адна кніга Анатоля Сыса, уражанні яна пакідае неадназначныя.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Каму належыць будучыня?

**Вялікі падарунак айчыннае літаратуразнаўства атрымала з берагоў туманнага Альбіёна: вядомы прафесар Арнольд Макмілін выдаў грунтоўную работу «Рунь: Маладыя беларускія паэты пачатку XXI стагоддзя».**

Сказаўшы «вядомы», варта згадаць, якую вялікую працу правёў прафесар: навуковую, а разам з тым і папулярызатарскую, зрабіўшы беларускую літаратуру адкрытай для зацікаўленага еўрапейскага чытача. Так, Арнольд Макмілін з'яўляецца сябрам Англа-беларускага таварыства і ўдзельнікам выдання «*The Journal of Byelorussian Studies*», рэдактарам якога быў у 1965 — 1971 гадах. З 1991 года прафесар чытаў курс лекцый «Уводзіны ў беларускую культуру: мова, літаратура, гісторыя». За час навуковай дзейнасці ён выдаў шэсць кніг (уключаючы «Рунь»), прысвечаных беларускай літаратуры. Акрамя таго, пісаў прадмовы да зборнікаў беларускай паэзіі, пераклаў разам з Верай Рыч на англійскую мову паэму «Тарас на Парнасе», даследаваў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Васіля Быкава...

«Працы Арнольда Макміліна адкрылі для англамоўнага свету ўвесь спектр беларускай літаратуры — ад старажытнасці да паэзіі 2010-х, — пісаў пра яго дзейнайсць літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч. Цыкл яго літаратуразнаўчых манаграфій на цяперашні час з'яўляецца адзінай магчымасцю для шырокага еўрапейскага чытача пазнаёміцца з усёй разнастайнасцю беларускага пісьменства, прасачыць дынаміку яго развіцця, даведацца пра асноўныя кірункі і найбольш прыкметных дзеячоў і дзеячак беларускай літаратуры».

У цэнтры ўвагі Арнольда Макміліна гэтым разам апынуліся 40 маладых паэтаў Беларусі. У прадмове да кнігі ён зазначае, што «магчымасць напісаць пра гэтых паэтаў прываблівала мяне сярод іншага і таму, што на цяперашні час на большасць з іх беларуская крытыка звяртае мала ўвагі». Мяркую, такая ацэнка не зусім справядлівая: дэбютныя зборнікі паэтаў не застаюцца без увагі. Зрэшты, калі звярнуць увагу на слова «мала»... Несумненна пагадзіцца можна з іншым: работа англійскага прафесара ўнікальная, бо разглядае творчасць найноўшага пакалення ў цэлым.

Арнольд Макмілін не робіць глабальных высноў пра тое, куды рухаецца сучасны беларускі літаратурны працэс, пра абстрактныя «тэндэнцыі», «кірункі», «плыні». Ён увогуле прытрымліваецца тактыкі кропкавых удараў, асобных прыкладаў. Пры гэтым, распачынаючы новы раздзел, робіць экскурс датычна кожнай азначанай тэмы. І пэўныя абагульненні, такім чынам, усё ж такі атрымліваюцца, праўда, не ў форме пасляслоўя, а ў прадмове.

Ёсць адна акалічнасць, якая ставіць невялічкі пытальнік побач з аб'ектыўнасцю даследавання, дакладней, максімальнай набліжанасцю яго да цяперашняга стану рэчаў. Гэта выбар кніг, якія Арнольд Макмілін разглядае. Часцей за ўсё — дэбютныя зборнікі. Радзей — першыя дзве кнігі аўтара. Так, даследчык прасочвае менавіта нараджэнне новай паэзіі. Але ў выніку атрымліваецца пэўнае скажэнне. Многія з разгляданых у «Руні» аўтараў займелі на час выхаду даследавання новыя кнігі, як правіла, больш сталыя, а часам і моцна адрозныя ад дэбютных зборнікаў (Тацццяна Сівец, Наста Кудасава). Віктар Лупасін фігуруе ў «Руні» як Віктар Ываноў: за такім псеўданімам ішла першая яго кніга «Асарці». Сёння паэт гэтым псеўданімам не карыстаецца.

Ёсць нюанс і з азначэннем «маладыя». З аднаго боку, гэтую самую «маладосць» можна прыраўняць да пачаткоўства, калі ўжо разглядаюцца дэбютныя кнігі. І, верагодна, найбольш правільна глядзець на гэтае азначэнне менавіта так. З іншага боку, Арнольд Макмілін абраў мяжой маладосці 1980 год. Гэта значыць, асобным творцам споўнілася ўжо 36 гадоў...




Структура кнігі знешне простая. Даследчык групуе выбраных аўтараў паводле пераваг у іх творчасці пэўнай тэмы: «Гістарычная спадчына» (і не толькі ВКЛ), «Рэлігія і розныя формы пабожнасці» (філігранная фармулёўка), «Пратэст супраць адчужанасці» (перадусім — датычна стану беларускай мовы ў краіне, а таксама — адлюстраванне грамадскіх і палітычных працэсаў), «Ужыванне мовы і яе абарона» (тут шмат увагі надаецца моватворчасці, у прыватнасці неалагізмам), «Лірычны парыў» (насуперак чаканням размова ідзе не пра інтымную, але пра пейзажную лірыку), «Гумар» (сакавіты раздзел), «Паэзія перформансу» (даследчык не падзяляе тэкст і яго ўвасабленне ў дзеі — у гэтым, на мой погляд, вялікі плюс), «Паэты і паэтычнае натхненне». Між тым падзел на тэмы вельмі ўмоўны, пра што кажа і сам Арнольд Макмілін. Пра Марыю Мартысевіч можна было б пісаць у раздзеле «Пратэст супраць адчужанасці» — але яна фігуруе ў «Гумары». Тут жа знаходзіцца Віктар Ываноў, якога можна далучыць да творцаў перформансу. Словам, пры жаданні чытач можаператасаваць паэтычную калоду, бо ніякага правільнага адказу тут напросту не існуе.

Гэта знешняя структура. Але і кожны асобны артыкул Арнольда Макміліна будуецца па пэўнай схеме. Напачатку — дадатковыя звесткі пра паэта (у сэнсе — дадатак да ўжо прыведзеных біяграфічных звестак). Тут даследчык вылучае найбольш выразныя рысы творчасці разгляданага паэта, і ў гэтай кароткай ды ёмістай характарыстыцы ёсць практычная місія — дапамагчы чытачу ў рэшце рэшт адрозніваць Віталя Рыжкова ад Сяргея Прылуцкага, Насту Кудасаву ад Анастасіі Кацюргінай і г. д. Паведамляе ён і пра род заняткаў аўтара, што таксама мае практычнае значэнне: часта гэта адлюстроўваецца на іх паэтычнай творчасці. Вядома, называе зборнікі. Часта згадвае ўзрост аўтара на час яго літаратурнага дэбюту.

Як навукоўца Арнольда Макміліна найперш цікавіць тэхніка вершаскладання. Вы абавязкова знойдзеце звесткі пра тое, рыфмуе паэт ці не, як абыходзіцца з пунктуацыяй, наколькі асвоіў уласна тэхніку, у чым яго моцны бок. Таксама абавязковы пералік тэм, якія аўтара хвалююць найперш. Пры гэтым артыкулы прафесара нельга назваць сухімі і канстатацыйнымі. Не менш, як тэхніка верша, яго займае настрой кожнага асобнага твора. Ён не сарамеецца выказаць ненавуковае, чытацкае ўражанне ад прачытання таго ці іншага тэксту, ад творчасці паэта ў цэлым. Такія асабістыя штрышкі ў навуковай працы робяць апошнюю сімпатычнай, у нечым нават кранальнай. Да ўсяго, у чытача заўжды застаецца права паспрачацца з даследчыкам. Арнольд Макмілін распавядае — але дзіўным чынам пры гэтым застаецца ўражанне дыялогу.

Не скупіцца ён і на цытаванне. Уважліва ставіцца да кожнага асобнага верша (што мусіць выклікаць сімпатыю ў саміх паэтаў). Так, ён не можа надаць шмат увагі кожнаму, але пры гэтым, думаецца, паэты не мусяць пачувацца абдзеленымі. Арнольд Макмілін піша з цеплынёю (інакш і не скажаш), якая выдае ў ім непадробнага прыхільніка паэзіі.

Цікава, што час ад часу згадваюцца крытыкі: калі даследчык пагаджаецца з пэўнай іх ацэнкай і цытуе альбо калі творчасць паэта выклікала рэзананс і бурную рэакцыю ў тых самых крытыкаў (як здарылася з дэбютам Насты Манцэвіч, Сяргея Прылуцкага).

Робячы падагульненне, Арнольд Макмілін не дае прагнозаў датычна творчасці таго ці іншага паэта. Але сістэматычна і, відаць, шчыра выказвае спадзеў, што на тым творчасць не спыніцца і што голас аўтара будзе яшчэ доўга гучаць у беларускай літаратуры.

**Сяргей Прылуцкі:**

*«Не разумею прынцыпу, па якім Макмілін адбіраў аўтараў. Па-мойму, там няма ніякага прынцыпу і крытэрыю. А ўвогуле падобныя кнігі павінная пастаянна выдаваць Акадэмія навук, ці яшчэ хто... Не ведаю, наколькі якасна, але дзядзька зрабіў працу за цэлы Інстытут філалогіі».*

**Віктар Лупасін:**

*«Карысная кніга, трохі састарэлая (30+ — гэта ўжо не маладыя, нават 25+ не маладыя). Макмілін малайчына, прарабіў вялікую працу, але нарабіў шмат ляпаў — напрыклад, у артыкуле пра Лупасіна іх дзевяць. Хм, зрэшты, самыя маладыя апроч сацсетак нідзе не друкуюцца, і аналізаваць іх надзвычай цяжка».*

**Ціхан Чарнякевіч:**

*«Новая кніга прафесара Макміліна прэзентуе аўтарскую класіфікацыю найноўшай паэзіі 2010-х, якая пакуль што зусім абыходзіцца ўвагай акадэмічнай навукі, хоць замежная практыка якраз больш арыентуецца на сучасных аўтараў, бо менавіта ў іх досведзе адлюстроўваецца новая мова літаратуры».*

Пэўнае падагульненне можам зрабіць мы самі, падсумаваўшы паасобныя заўвагі Арнольда Макміліна.

• **Сувязь з літаратурным акіянам нашае маленькае возера не губляе.** Пра гэта сведчыць процьма прысвячэнняў у творчасці маладых паэтаў, згадкі ці прамыя звароты да класікаў (перадусім Максім Багдановіч, Янка Купала), інтэртэкстуальныя гульні, а таксама звароты да сучаснікаў.

• **Абсалютовая большасць маладых паэтаў — шматстаночнікі.** І справа тут не толькі ў штодзённай працы (што літаратурай не пражывеш — прапісная ісціна): многія займаюцца творчасцю ў іншых галінах: Рагнед Малахоўскі — фатограф і кампазітар, Вольга Чайкоўская — музыка, Анатоль Івашчанка — навукоўца. Многія паэты — перакладчыкі, а часам і празаікі.

• **Рыфма будзе жыць.** Яна па-ранейшаму прысутная ў творчасці пераважнай большасці аўтараў. Жывуць і класічныя цвёрдыя формы верша: часцей за ўсё — санет і трыялет. Да фармальных пытанняў дадамо яшчэ любоў да паўтораў (што не заўжды азначае рэфрэн), якая раптоўна выявілася ў многіх нашых паэтаў. Што рэдка ідзе на карысць творам.

• **Паэтычная моладзь — скептычная.** Скепсіс гэты не мае межаў: ён датычыць кахання, палітычнай сітуацыі ў краіне, саміх паэтаў (тут насамрэч адбываецца падваенне: іронія мяжуе з драмай)... Увогуле змрочныя настроі пераважаюць. Як зазначыў Арнольд Макмілін, для пераважнай большасці маладых паэтаў характэрныя «самота, элегічны настрой, цяжкасці ў асабістых стасунках». Пры гэтым не адкідаецца і знарочыстая драматызацыя пачуцця дзеля добрага верша.

• Пры ўсім гэтым яны **любяць пасмяяцца.** Паказальна, што гумару ў кнізе прысвечаны асобны раздзел, а каханню — не, хоць і тое, і другое гучыць у творчасці ўсіх паэтаў без выключэння. Адценні гумару самыя розныя, але пераважае іронія, змрочнае пакепліванне з сябе ды свету.

• **Каханне ў творчасці нашых маладых паэтаў дзіўнае.** Слова «дзіўнае» ўзятае з лексікона самога Арнольда Макміліна. У спалучэнні з «каханнем» яно гучыць вельмі часта. Відаць, сказваецца ўсё тое ж змрачнаватае пачуццё гумару.

• Але гэта не значыць, што для моладзі няма нічога святога. Якраз наадварот: **Бог прысутнічае** гэтаксама нязменна ў іх творчасці, як гумар і каханне. Іншая справа, што ў адных паэтаў Бог звязаны найперш з рэлігіяй (Надзея Філон), у іншых пераўвасабляецца ў веру, якая выяўляецца ў пачуццях, у прыродных з'явах (Наста Кудасава, Кацярына Глухоўская), а ў трэціх адмаўляецца — і пры гэтым усё адно гучыць. А часам паэт даходзіць да парадоксу: вера ў яго спалучаецца з яе ж адмаўленнем.

• Што да прыроды, тут улюбёная паравіна паэтаў — **восень**. Нічога новага.

• **Вечнае пытанне маралі, апазіцыі дабра і зла** сапраўды вечнае. У адных гэтая тэма ўздымаецца літаральна, у іншых гучыць між радкоў.

• Не знікае з найноўшай паэзіі й **алкаголь**. Тут варта прывесці цікавую цытату прафесара: «Некалькі маладых беларускіх паэтаў уводзяць у свае творы тэму алкаголю, праўда, далёка не ў той ступені, як Анатоль Сыс, і зусім не з ягоным талентам».

• **Датычна ненарматыўнай лексікі.** Яна не вельмі пашыраная, але трывалы адсотак за сабой пакідае. Гэты адсотак неад'емны і патрэбны як мастацкі сродак.

• Што ж новага прыўнесла пакаленне поствасьмідзясятых у беларускую літаратуру? Фармальна — **шэраг неалагізмаў,** якія пакуль не перайшлі ў шырокі ўжытак (Ігар Кулікоў), **і колькі тэм** (глыбока асабістае — у Насты Манцэвіч, эксперыментальна-жартаўлівае — у Віктара Ыванова і інш.).

І тут я зноў згадала б іронію. Яна прысутнічала і раней, але цяпер, і асабліва ў паэзіі, загучала як ніколі моцна. Цікава: калі гэтая зброя прытупіцца, што прыйдзе ёй на змену?..

**Наста ГРЫШЧУК**



Алёна ПАПКО

***

*Я з краю Бярозаўскага…*
*У ім мядовыя росы,*
*Атавы духмяны густыя косы.*
*Клякочуць буслы,*
*Спяваюць салоўкі —*
*У нашага лета ярчэйшыя*
*Фарбы-абноўкі!*

*У восені нашай*
*Цёпла-кароткія ночы…*
*Неба раскройвае*
*Голас маланак прарочы.*
*Цягнуцца ў вырай плацкартам*
*Няголы. І пасмачкі дыму*
*Ўсё задуменна над хатай*
*Кружляюць тужліва.*
*Наша зіма белакрылымі*
*Ўеецца сняжынкамі.*
*Плача калі ледзяшамі —*
*Слёзак ільдзінкамі,*
*Жвава калі завіхаецца*
*Сцюжай шчымліваю.*
*І па-сяброўску частуе*
*Салодкай калінаю.*

*Вёсны ў Бярозаўскім краі*
*Заўжды дужа шчодрыя:*
*Белапялёсткава кроўныя,*
*З імі — мы родныя.*
*Гонарам нашым гаі слывуць*
*Беластволыя.*
*Непераможнасцю нашай —*
*Песні вясковыя.*

## Вандроўка

*Наўсцяж прамежнай цішыні*
*І сіняга туману*
*Бягуць сцяжынкі-бальшакі*
*Расквечаным парадам.*

*І лёгка дыхаецца так,*
*Альшына на паўкроку.*
*Які ж дзівосны свет-мастак!*
*І радуецца вока.*

*Птушыны грай наўкол звініць,*
*І б’е з глыбінь крыніца.*
*Як лёгка тут шчаслівай быць,*
*Як цяжка памыліцца!*

*І перамоўна жартаваць*
*З нябачна-чуйным рэхам,*
*Каб устрывожваць сонны гай*
*Сваім бадзёрым смехам!*

## Маёй маленькай Радзіме

*Іначай не навучаная жыць…*
*Пакуль сцяжынка — кроўная сяброўка*
*Валошкамі ўпрыгожана гарыць,*
*Ніколі на душы не будзе горка!*

*Мне кожная тут кладачка свая,*
*Рачулка сінявокая, што неба.*
*Чым сёння дыхаеш, руплівіца-зямля?*
*Сялянскім потам альбо*
*жытнім хлебам?*

*Нырну я ў сад, дзе спеліцца «наліў»,*
*Дзе пчолы феерычна ткуць dance party.*
*Прад імем тваім гучным і святым*
*Схіляю галаву, Радзіма-маці!*

*Пульсуе на запясці новы дзень,*
*І лашчыць далячынь цнатліва твары.*
*Разліўся па душы маёй алей,*
*Як шчасны боль твой,*
*сонечна-яскравы.*

*Апранута з іголачкі лясной,*
*Са сцюжаю на «ты» ў часы нянасця.*
*Таму прашу ў цябе, маёй святой,*
*Мне вышыць у пасаг зямнога шчасця.*

## Добрае слова

*Добрае слова лішнім не будзе,*
*Добрае слова — падзякі расткі,*
*Добрае слова — ў веснічкі людзям*
*Добрыя справы каваць на вякі.*

*Добрае слова душу акрыляе,*
*Светла, пяшчотна гучыць праз гады.*
*Добрае слова шчыра кранае,*
*Аберагае ад змоўнай журбы.*

*Добрае слова, каб не збяднелі,*
*Воляй нябёсаў гучыць над зямлёй.*
*Каб аніколі мы больш не хварэлі*
*Крэўнай няўдзячнасцю і мітуснёй!*

***

*Калі слязіна на вачах баліць,*
*Свой пешчу лёс ліпнёваю гарбатай.*
*…Як трэба — не навучаная жыць,*
*А як не трэба — ведаю багата.*

*Час добры для пшаніцы ды ільноў —*
*Плывуць дзянёчкі сонечнага лета.*
*За спінамі шырокіх тумаоў*
*Дождж масляковы*
*сыпле рыкашэтам.*

*Мне б кропельку ягонае душы:*
*Распятае не ў роспачнай турбоце,*
*Пад ногі кінутае — не грашы:*
*Шматлюдна быць не можа ў адзіноце.*

*Віруе час. Дапітае да дна —*
*А дзе ж бясконцасць (хіба хто адкажа?)*
*Цурчыць вада. Празрыстая вада…*
*Запозненая споведзь другім разам.*

***

*Вунь сцежкі лугавыя і ракітнік.*
*О, белы свет, які прасторны ты!*
*Дзе выспелены водарам чарнічнік,*
*Дзе першы звон руплівіцы-касы.*

*О, белы свет, які ты патаемны!*
*Што ў ім чакае — згадка апасля?*
*І станецца навечна ў ім нязменным*
*Дажджоў слязінка, сонца і вясна.*

*Калі пяецца шчыра і адкрыта,*
*О, белы свет, які шчаслівы ты!*
*Каб мове прадзедаў не стаць забытай,*
*Са мной па-беларуску гавары!*

*О, белы свет, ты просты і складаны,*
*Каб жыць у згодзе з іншымі, з сабой,*
*І як Купалаўскі радочак вершаваны,*
*Як слова Коласава над зямлёй.*

## Родная мова

*Ў шырокім свеце думак і падзей,*
*Дзе нам не ўсё таемнае вядома,*
*Ёсць тое, што яднае ўсіх людзей,*
*І гэта — наша сонечная мова.*

*Мой прадзед за яе гарой стаяў,*
*Зрываючы няволі путы ўдала.*
*І бацька твой яе абараняў,*
*Каб слова беларускае гучала.*

*Таму паўсюль мне чуецца яно:*
*У шуме нескаронай навальніцы,*
*Ў птушыным шчабятанні над сялом*
*І ў кніжачках на вузенькай паліцы.*

*А мова як жыве — дык мы жывём,*
*Жыве народ і цэлая краіна!*
*І несмяротнасці у ёй закон,*
*І наша грамадзянская ў ёй сіла!*



Віктар ЯРАЦ

## Шаўчэнкаў шлях

*Тут вецер то ласкай павее, то ўколе.*
*А пошум у вербаў заўсёды адзін.*
*Раскручваюць сказ свой стамлёныя колы*
*пра дол ці пра долю дзяцей-сірацін?*

*А сонца праз хмары зажураным вокам*
*імкнецца разгледзець каго на вазах?*
*Да волі жаданай — далёка-далёка…*
*Праз далеч у далеч спрадвечны лёг шлях.*

*Праз вёскі надрэчныя, ціхія вёскі,*
*праедзе абоз. Даўніх колаў сляды*
*прыгадвае бераг дняпроўскі, па-свойску*
*сагрэты паглядам — такім маладым.*

*Шаўчэнка грэў позіркам нашы мясціны:*
*ён ехаў праз Рэчыцу ў Вільню. Яму*
*Дняпро беларускі матыў Украіны*
*выснуваў пра шчасце ці пекла-турму?*

*Валун пасівелы на строме бяссоннай*
*пытае пра памяць чыю ў матыля?*
*Тут мыюцца зоры вадою прадоннай.*
*На шлях птах скідае пярынку крыла…*

## Армянская песня

*Мелодыю песні дзявочай, жаночай*
*я слухаў і чую дагэтуль яшчэ —*
*яна, нібы рэчка, прызнанні вуркоча*
*і мые журботу, што ранай пячэ.*
*І мроіцца мне, як над каменем кожным*
*маліла душа адгукнуцца з магіл*
*братоў і сясцёр, а вятры асцярожна*
*пылок цалавалі з магіл — дарагі.*

*То — выклікам смерці —*
*вясновым буяннем*
*напоўнены сказ вінаградпай лазы,*
*То — скрыпак вясельных*
*іскрыстае гранне,*
*а гора глыбіні — бяздонне слязы.*
*Спявалі армянкі ў вячэрнім вагоне,*
*і гукі той песні будзілі прастор,*
*як памяць зямлі, дзе жыве незагойны*
*БОЛЬ —*
*ён не змыты*
*і ліўнямі*
*з гор…*

## Арліны край

Памяці Расула Гамзатава

*Кружаць, недасяжныя для стрэлаў,*
*кружаць, абдымаючы вятры,*
*над скалой, дзе вечнасць пасівела,*
*вышыні птушыныя цары.*
*Над віхлястай горнаю сцяжынай*
*і над шляхам, што між гор пралёг,*
*кружаць у бязмежжы чыстай сіні —*
*там абмыты выдыхі эпох.*
*У павольным лёце зрокам ловяць*
*ход істот — насельнікаў зямных.*
*У арлоў не кружацца галовы:*
*вышыні баяцца — не для іх.*

## Цыганская вясна

*Цыганскі конь нібы з вякоў мінулых*
*у свеце іншамарак гарадскім*
*не запалоханы маторным гулам,*
*ні светлафорам, ні свістком ДАІ.*

*Спяшаецца спакойна, як заўсёды,*
*хоць і на іншых колах (што ж — прагрэс)*
*праз рэха даўніх качавых мелодый*
*цыганскі воз — не з крадзеным у лес.*

*На возе плуг — блішчыць лямех сталёвы.*
*На возе луг — ахапак-успамін*
*касьбы мінулагодняй. Тытунёвы*
*дымок плыве — на выхлапны з машын.*

*І ў цыганоў ёсць па вясне турбота:*
*зямлю ўзараць (не картамі — туман).*
*Вось і блішчыць на возе плуг. І ў ботах —*
*сівы, нібыта Індыя, цыган…*

## На разломе…

*Не знаю: з якіх п’юць нябёсы крыніц*
*і вецер жар-птушку на досвітку ловіць*
*у свеце, дзе сёння чым боль загаіць*
*Зямлі на разломе?*
*Дыхання смяротнага ў мінных палях*
*баяцца людскія маўчанне і слова;*
*І зноў у траншэях, у бліндажах*
*Зямля на разломе.*
*Між сэрцамі блізкімі дым не кастроў*
*начлежных рыбацкіх —*
*разбітага дома.*
*Зноў праз павязкі сочыцца кроў…*
*Зямля — на разломе.*



Віталь ЖУРАЎСКІ

# Гісторыя аднаго махлярства

*Апавяданне*

Сяргей кульгае: хворая нага. Мой новы сусед па лецішчы. Нашы дамы стаяць насупраць, праз дарогу. Бывае, што з чалавекам раней ніколі не сустракаўся, а пазнаёмішся, дык, здаецца, усё жыццё разам пражкрочылі. Так і ў мяне. Цяпер кожны раз, як прыязджаю на сваё лецішча і бачу, што ён там, перш бягу вітацца з Сяргеем, ці Сярожкам, як ён сам сябе тут называе. Так і прадставіўся мне пры першым знаёмстве:

— Мяне Сярожкам завуць.

А пазнаёміліся мы вось як. Разгружаю сваю машыну, заўсёды набітую ўсялякай гаспадарчай дробяззю, — і ў гэты момант з суседніх варот насустрач мне ледзь клыпае незнаёмы мужчына гадоў пяцідзесяці. У адной руцэ малаток, у другой — нейкія дошкі. Накіроўваецца якраз у мой бок. Ці то новы гаспадар (а я ўжо ведаў, што суседскі дом нехта набыў), ці то які яго работнік… Я павітаўся і кінуў наўзгад:

— Што, сусед, так напрацаваўся, што ледзь ногі валачэш? З непрывычкі яно, вядома, цяжка! Во, зараз разгружуся і халодным півам цябе пачастую. Як кажуць, падымем келіхі за знаёмства.

Потым я даведаўся, што ён неяк раней пашкодзіў нагу, таму і кульгае, а зусім не ад стомы. Другі б пакрыўдзіўся, зубы сцяў і ў мой бок больш бы не глядзеў. А Сяргей толькі ўсміхнуўся і працягнуў руку:

— Давай знаёміцца.

І калі мы ўжо сыдземся, то ніводзін летні вечар не праходзіць без сумесных пасядзелак на свежым паветры. Ёсць чым падзяліцца: за плячыма столькі гадоў!

— А вось быў выпадак... — і Сяргей пачынае чарговую гісторыю. — 90-я гады. Добра памятаю: Кракаўскі базар. Шматлюдна і гулка. З тых, хто стаіць за прылаўкам, і з тых, каму не хапіла месца на гандлёвых радах і яны расклалі свой няхітры скарб на зямлі, усе выхадцы з краін былога Савецкага Саюза. Пакупнікі, палякі, з ахвотай набывалі ўсялякую дробязь, што мы на сабе цягнулі да іх. Асабліва добра раскупляліся рэчы з лэйбай «Зроблена ў СССР». Я тады ў Польшчу вазіў ручныя гадзіннікі. Прадаваліся добра, асабліва быў попыт на камандзірскія, разыходзіліся як гарачыя піражкі. І не дзіва. Майму гандлю спрыяла вайна на Балканах — гэта амаль побач з Польшчай. А што за камандзір без камандзірскага гадзінніка? Што ні кажы, а ў Савецкім Саюзе ўсё, што датычыла ваеннага рыштунку, — ці то камандзірскія гадзіннікі, ці то ракетныя комплексы — рабіць умелі. Мне часам замаўлялі і компасы, і біноклі. Толькі вязі… Але штот гэта я ўсё пра сябе ды пра сябе. Не пра гэта ж хацеў расказаць. Раскажу табе гісторыю, дзе я быў толькі назіральнікам. Пра гандлёвыя прыгоды крыху пазней паведаю — таксама шмат займальнага.

…Мне тады не хапіла месца за прылаўкам, і я расклаў тавар на зямлі. Побач са мной шпарка гандлявалі два хлопцы з Масквы. Да паездкі ў Польшчу яны падрыхтаваліся грунтоўна. Капот іх «Волгі» быў завалены косамі, сякерамі, піламі ды іншым інвентаром, які тут, у Польшчы, дзе стаялі заводы, быў страшэнным дэфіцытам, ішоў на «ўра». Я не паспеў прадаць і некалькі сваіх гадзіннікаў, як усё іх «жалеза» размялі, засталося толькі некалькі матык. Масквічы радасна пацірали рукі і пачыналі збірацца дадому. Мне заставалася толькі ім пазайздросціць: бог гандлю Меркурый быў на іх баку. І ў гэты момант каля нас нечакана апынуўся хлопец з дыпламатам у руках. Сам худы, непрыкметны, у пацёртым джынсавым касцюме, старых красоўках, а ў дыпламаце, які ён паспеў пакласці на зямлю і раскрыць, — нешта кшталту мікрасхем. З палякаў да яго нават ніхто і не падышоў — не цікавіліся такім таварам. Хлопец так з паўгадзіны пастаяў каля свайго дыпламата, а потым і звяртаецца да масквічоў:

— Землякі, выручайце! Мне трэба адбегчы хвілін на дваццаць, каб білет на поезд набыць, бо потым магу і не паспець. А я тут з адным палякам накопт гэтых выпрамнікоў для спадарожнікавых антэн дамовіўся сустрэцца. А ён, гляджу, спазняецца. Скажыце, што хутка буду. Толькі глядзіце, каб дыпламат не прапаў.

Я тады яшчэ пасмяяўся: каму тут твае цацкі патрэбны?

А масквічы плячыма пацiснулі, маўляў, паспееш, пакуль мы не з'едзем, — дык паспееш. Чаму не, пасцеражом твой дыпламат. Яны былі ў цудоўным настроі.

Хлопец кінуўся у бок чыгуначнай касы.

І тут гандляры раптам ажывіліся. На гарызонце з'явіўся сапраўдны пакупнік. Да нас у атачэнні двух целаахоўнікаў накіроўваўся багаты паляк. Лета, горача, а ён у доўгім футры. І ў цёмных акулярах. Такі ганарлівы — сапраўдны паляк. Важна падыходзіў да латкоў, разглядаў тавар, але нічога ні ў кога не купляў і ні з кім не размаўляў. Сапраўды зацікавіўся толькі змесцівам дыпламата. Тыцнуў пальцам і пытаецца ў масквіча:

— То пана? (Тут Сяргей спрабуе перадаць усе інтанацыі размовы, і ў яго гэта атрымліваецца цудоўна — апавядальнік ад Бога.)

— Ды не, пакінуў тут адзін.

— А дзе пан сам будзе?

— На вакзал пабег.

Паляк і кажа:

— Так, панове, майце на ўвазе. Я маю патрэбу ў гэтых выпрамніках для спадарожнікавых антэн. Дык як пан прыйдзе, хай хапае свой чамадан і бяжыць да мяне. Знайсці мяне няцяжка. Самы высокі дом за зялёным плотам на ўскрайку. Пазнае па спадарожнікавых антэнах. Толькі хай абавязкова прыйдзе. А для надзейнасці я яму аванс пакіну. Во, перадайце пану пакуль што трыста долараў і маю візітку. Добжэ?..

Паляк дастаў з кішэні расшпіленага футра лапатнік і адлічыў тры зялёныя паперкі. Мы ўсе і аслупянелі. А паляк дабіў канчаткова:

— Скажыце пану: калі прыйдзе да мяне, атрымае ў дзесяць разоў больш. Да відзэння.

Цяпер ужо не масквічам трэба было зайдросціць, а гэтаму хлопцу. За такі маленькі чамаданчык — і такія вялікія грошы.

Пан развярнуўся і пайшоў. А неўзабаве і хлопец аб'явіўся.

Масквічы яму і кажуць:

— Дзе ты швэндаешся? Табе грошы самі з неба валяцца. Трымай трыста баксаў, адзін важны паляк табе перадаў. Во яго візітка. Ногі ў рукі і дуй па пазначаным адрасе!

Зразумела, пра тое, што паляк абяцаў заплаціць больш, нічога яму не сказалі. Ну і я маўчаў. Не да мяне звярталіся, не мне і ўмешвацца.

Бачу, хлопец разгубіўся. Грошы ўзяў, а не радасны.

— У мяне цягнік праз трыццаць хвілін, не паспею я занесці заказ. А мне ехаць трэба. А вы як на тое ўжо аванс узялі. А не паехаць я не магу. Во, праблема…

Адзін з масквічоў, відаць, хутка дапетрыў, што, калі паляк пакінуў чалавеку трыста долараў, то дыпламат сапраўды каштоўны, яго і перапрадаць можна з вялікім наварам. Чым і вырашыў скарыстацца. Прапануе хлопцу:

— Дык давай мы табе дапаможам. Калі ўжо пачалі за цябе адказваць, будзем і надалей. Мы табе яшчэ трыста баксаў дабавім — і можаш ехаць спакойна. Усё перададзім.

— Не, хлопцы, вы што. Вам за гэты дыпламат не менш як пяць тысяч зялёных адваляць.

— Здурэў?! Хто ж столькі заплаціць?

— Гэта выпрамнікі, яны, лічы, з золата і на вагу золата. Дэфіцыт. Іх у мяне ў любым месцы з рукамі адарвуць.

Масквіч яшчэ больш паверыў у тое, што тавар мае кошт. Магчымасць падзарабіць нельга ўпускаць. Але для адчэпкі кажа:

— Тады сам разбірайся са сваім золатам.

— Мужыкі, чатыры тысячы давайце. Будзьце упэўнены, заробіце болей!

— Адкуль у нас такія грошы? Мы і паловы не нагандлявалі!

— Давайце што ёсць, — згаджаецца хлопец.

У выніку дамовіліся яны на трох тысячах за чамаданчык, аддалі ўсё, што было ў кішэнях, удырылі па руках — і ў розныя бакі. Хлопец — на аўтавакзал, а масквічы — у «Волгу» і да заможнага пакупніка. Вярнуліся праз гадзіну. Толькі хацеў іх павіншаваць з удалай гандлёвай здзелкай, а яны мне:

— Дзе той смаркач? Не памятаеце, ці казаў ён, адкуль сам і куды накіроўваецца? Мы ўжо былі на вакзале, ды дзе ты цяпер яго знойдзеш. На паліцыю ніякай надзеі...

Аказалася, што ўсё было падстроена загадзя. Выпрамнікі тыя аказаліся на самай справе звычайнымі мікрасхемамі, зразумела, не з золата, каштавалі капейкі, па пакінутым адрасе асабняка за зялёным плотам не было, як і паляка ў футры, а візітка ліпавая. Атрымаўся такі «развод па-польску».

Масквічы яшчэ доўга дакаралі сябе за прагнасць да чужога ды за даверлівасць. Так танна купіцца! Рвалі валасы і праклінали ўсё на свеце. Думаю, і сёння люта ненавідзяць спадарожнікавыя антэны і бокам абыходзяць крамы радыётэхнікі. Яны ж аддалі таму прайдзісвету усе заробленыя грошы да капейкі, нават на паліва не пакінулі. Нам потым яшчэ давялося ім на дарогу скінуцца. Як людзей не выручыш? Марылі «падняцца», а выйшла наадварот: махляры на чалавечай сквапнасці згулялі. Во гэта бізнес! Яшчэ ніколі стары чамаданчык з хламам не каштаваў так дорага.

— Я табе так скажу, — падсумоўвае Сяргей. — Калі нечага не разумееш, нашто ўмешвацца? А тым больш спрабаваць зарабіць на чужых праблемах… Ну, дзе там тваё піва?



Мікола КОТАЎ

# Вецер над Заяцеллем

*Эцюд*

За замчышчам старажытнага Турава, дзе ўзвышаецца магутная постаць святаціеля Кірылы Тураўскага, — зарослая вербалозам сцяжынка, вузенькі масток, на якім цяжка размінуцца.

З вялікай ракі Прыпяць пад мастком цячэ ручаёк: па ім на лодцы не праплысці. За мастком — некалькі хацін. Ёсць дабротныя, з цэглы, а большасць драўляных, пахілых ды пачарнелых. Моладзь раз'ехалася па ўсім свеце, але не пакідаюць малой радзімы, дзе нарадзіліся. Едуць, каб наведаць магілы родных, ступіць на парог хаты, дзе прайшло дзяцінства. Успомніць, як пляскаліся ў заяцельскай сажалцы, басанож беглі ад навальніцы пад павець, пад вялікую вярбу.

Кожны год у роднае Заяцелле з Масквы прыязджае былы афіцэр Расійскай арміі, цяпер пенсіянер, Іван Міхайлавіч Матох. Хата бацькоў без догляду засумавала, быльнікам парасла. Сэрца Івана не вытрымлівае ад такога відовішча. Узяў сякеру, касу, пілу, паклікаў на дапамогу сяброў-суседзяў… Пабудавалі яны пасярод хутара вялікую хаціну. Яшчэ Іван устанавіў каля пабудовы паклонныя крыжы, якія аберагаюць хутар Заяцелле.

Той, хто праходзіць каля хаціны, абавязкова спыніцца і паклоніцца. Жыхары Заяцелля ласкава прадстаўляюць Івана Міхайлавіча: «Гэта наш Іван-Іваніца. Яму і ў пояс не грэх пакланіцца».

Іван Міхайлавіч апранаецца па-святочнаму — у вышытую палатняную сарочку, калі сустракае сваіх дзяцей і жонку Людмілу, што прыязджаюць у госці з Масквы. Людміла — масквічка, але ўжо вітаецца пабеларуску. З радасцю дапамагае мужу ў яго справах. Дзеці і ўнукі з пашанай звяртаюцца да бацькі і дзеда, які прывіў ім любоў да Палескай зямлі, дзе нарадзіўся.

Суседзі масквіча-заяцельца — яго настаўнік Барыс Мікалаевіч Муравін з жонкай Ірынай Самуілаўнай, якая калісьці таксама прывівала Івану любоў да роднай зямлі.

Заяцелле, маленькі хутар, перажыло гады ваеннага ліхалецця. Абаранялі старыя, жанчыны і дзеці. Агульнае гора аб'ядноўвала.

Вясной Заяцелле залівала вялікая паводка. Але людзі не падалі духам, дапамагалі суседзям: на лодках везлі адно аднаму цёплую вопратку і ежу, а з дахаў хат гучалі вясёлыя спевы. Вось такія нашы палешукі.

Хата Муравіных стаяла недалёка ад Прыпяці. У адзін з цёплых летніх дзён разгуляўся моцны вецер, заблiскала навальніца, стала цёмна, пайшоў моцны дождж. Хвалі Прыпяці ўздымаліся вышэй за дах хаты.

А ў гэты час недзе на беразе вудзіў рыбу малодшы сын Барыса і Ірыны Сашка. Маці сэрцам адчула бяду. Бацькі пабеглі да ракі, клікалі сына, але гром заглушаў крыкі.

Сціхла непагадзь, толькі не перастала балець сэрца маці. У той час заціх увесь хутар, нават птушкі не спявалі. Сашку любілі ўсе: дзесяцігадовы хлопчык быў ветлівым з усімі жыхарамі. Вялікае гора захлынула ўсё Заяцелле.

Прайшло шмат гадоў, але на стале ў чорнай рамачцы стаіць партрэт Сашкі, любага малодшага сына.

Барыс моўчкі бярэ вёслы, жонка ні пра што не пытаецца, моўчкі ідзе ўслед. Яны павольна плывуць на лугавы бераг. Барыс сядзіць на вёслах, а маці кідае ў ваду цукеркі — пачастунак сыну. Апускае ў ваду рукі, нібы хоча пагладзіць Сашку па светлай галоўцы. Вось рыбка плюхнула хвастом па вадзе, мабыць, гэта Сашка ўдзячна вітаецца з бацькамі.

Моўчкі плывуць да квяцістага лугу. Лодка ўтыкнулася носам у бераг. Ірына ідзе па беразе, збірае кветкі. Барыс, седзячы ў лодцы, успамінае, як на гэтым лузе яны, маладыя, сустрэліся, закахаліся.

Ірына вярталася да лодкі з вялікім ахапкам кветак. Ветрык прыгнаў невялікую хмарку, і трэба спяшацца да лодкі. Ідучы па беразе, кідала ў ваду кветачку за кветачкай…

Паліло. Ірына села ў лодку, накіраваліся дахаты. Кветкі плылі па Прыпяці каляровым дываном…

На скрыжаванні дарог, каля самай хаты Муравіных, Іван Матох разам з хутаранамі ўпрыгожылі крыж-абярэг стужкамі ды ручнікамі, пасадзілі кветкі на добрую памяць усім продкам і маленькаму Сашку Муравіну.



Святлана ЗАМЛЕЛАВА

# Сухарава вежа

*Апавяданне*

За сталом у маленькай кухні, дзе акрамя стала найбольш утульна размясціліся хіба што пліта ды халадзільнік, сядзяць Лізавета Лукінішна Семіндзейкіна, старая гадоў васьмідзесяці з велізарнымі выцвілымі вачамі і пляскатым, як блін, сівым пучком на макушцы, і дзве яе дачкі — Аўгусціна Сямёнаўна і Юлія Сямёнаўна, — маладзейшыя старыя.

Усе трое п'юць гарбату ўпрыкуску. У Лізаветы Лукінішны набор для гарбаты з добрага тонкага фарфору з дробнымі ружовымі кветачкамі па белым полі. Перад Аўгусцінай Сямёнаўнай — велізарны куфель, гэтакая балея, на такім жа велізарным сподку, які хутчэй нагадвае супавую міску. Юлія Сямёнаўна п'е сваю гарбату са старэнькага чырвонага кубачка з белымі гарошынкамі. У адным месцы бок кубка адскепіўся. Сподак жа ўвесь пакрыты павуціннем дробных расколінак.

Паблізу ад Лізаветы Лукінішны ляжаць цукровыя шчыпцы. Час ад часу яна захоплівае іх сваёй кашчавай рукой і азвярэла коле кавалкі рафінаду. Рафінад пры гэтым трашчыць, Лізавета Лукінішна крэкча і квокча. Наколаты цукар звалены пасярод стала белай горкай. Побач, у глінянай цукарніцы з адколатай ручкай, ляжаць цукеркі. Тут жа на стале — яблыкі і некалькі сініх сліў.

П'юць моўчкі. Чуваць толькі звонкае прыцмокванне і хлябанне. Ды іншы раз назойліва звініць муха на аконнай шыбе. Ад гарачай гарбаты і густой чэрвеньскай спякоты ўсе трое чырвоныя і ўзмакрэлыя.

Узваліўшыся на стол грудзямі, Юлія Сямёнаўна абмякла і нібы прасела. На яе каленях ляжыць кухонны ручнік, якім яна пастаянна прамакае свой шырокі, у рабацінні, твар. Цвёрда паставіўшы на стол вострыя рудаваты локаць левай рукі і падпёршы галаву, Аўгусціна Сямёнаўна энергічна абмахваецца газеткай.

Памеры стала, ушчыльную прысунутага да акна, дазваляюць усім удзельнікам застолля бачыць, што адбываецца на вуліцы. Але ці не таму, што там роўным чынам нічога не адбываецца, на тварах сясцёр нуда смяротная. Не тое што Лізавета Лукінішна. У яе вачах чытаюцца адначасова сум і незадавальненне. Рэшткі броваў ссунутыя, вусны шчыльна сціснутыя. Па ўсім відаць, што думае яна пра нешта непрыемнае.

— І навошта?.. — раптам шумна ўздыхае яна, — навошта знеслі Сухараву вежу?..

Ад нечаканасці Юлія Сямёнаўна ўздрыгвае і не ўтрымлівае ручнік — той падае на падлогу. Аўгусціна Сямёнаўна перастае абмахвацца і шматзначна глядзіць на сястру. Тая пацiскае плячыма і лезе пад стол па ручнік.

— Што гэта ты, мам, пра вежу-та зноў успомніла? — асцярожна пытае Аўгусціна Сямёнаўна.

— І далася яна табе, — падтрымлівае яе Юлія Сямёнаўна, вылазячы з-пад стала і аддыхваючыся.

Лізавета Лукінішна з абурэннем цокае языком і строга глядзіць на дачок.

— Шмат бы вы разумелі-і! — плаксівым голасам, нараспеў кажа яна. — Я яе, матухну, як цяпер помню... Як заплюшчу вочы, так і бачу яе, так і бачу... — словы «так» ды «і» Лізавета Лукінішна прамаўляе разам, таму выходзіць у яе «ткі». — Стаіць яна, галуба, красінькая… прыбраная... як нявестачка...

І Лізавета Лукінішна сапраўды заплюшчвае вочы і пачынае метадычна разгойдвацца. Незадаволены выраз яе твару змяняецца лагодай….

Сёстры з цікаўнасцю і затоеным страхам глядзяць на маці.

— Ды будзе табе, мам, убівацца, — кажа нарэшце Аўгусціна Сямёнаўна і ўздыхае. — Знеслі і добра... Новую пабудуюць... Відаць, перашкаджала, калі знеслі. Там жа... гэта... трамвай, ці што, хадзіў... ці конка... Што там у вас?..

Юлія Сямёнаўна піхае сястру локцем і глядзіць з дакорам.

Лізавета Лукінішна перастае разгойдвацца і адкрывае вочы.

— Ды ты адумайся, Авета! Ты што гаворыш такое?.. Камуй-та яна перашкодзіла?.. Ды іншай такой вежы ва ўсёй Маскве зроду не было... Стаяла яна, галубачка, на ўзгорачку... прыгожанькая ўся такая, сонейкам асвечаная... красінькая…

Лізавета Лукінішна, скрыжаваўшы рукі і накіроўваючы погляд у нябыт, зноў пачынае разгойдвацца.

Сёстры пераглядваюцца.

— Ох, Царыца Нябесная... Каму ж гэта яна перашкодзіла-та... каму-у-у... прыгожая… красінькая...

— Ма-а-ам! — нецярпліва кажа Юлія Сямёнаўна, прамакаючы твар ручніком. — Але ж яе знеслі ўжо шэсцьдзесят гадоў як... Чаго ж ты па сёння ўсё ўбіваешся?..

Але Лізавета Лукінішна, захапіўшыся ўспамінамі, не чуе дачку.

— Прыгожанькая... — галосіць яна. — Ажурненькая... Вока цешыла... Бывала, едзеш па Мяшчанскай, а яна стаіць, ужо сустракае цябе, галубачка... Мімаволі ёй усміхнешся ды паклонішся. Дабрыдзень, маўляў, матухна... Яе здалёку відаць... Яна ж на горцы стаяла... І гэтакую прыгажосць знішчыць... — Лізавета Лукінішна цокае і матае галавой. — Ох, анчуткі!.. У Маскве-та дзве вежы было — Івана Вялікага ды Сухарава... Усё адно што дзве рукі... Ан няма, адсеклі адну руку-та. Ткі засталася Масква аднарукай... Та-а-ак! З Мяшчанскай відаць... А ў трыццаць чацвёртым годзе яе і звярнулі... Спачатку верх, потым гадзіннічкі... — Лізавета Лукінішна ўсхліпвае, а здзіўленне і страх на тварах сясцёр змяняюцца жалем і спагадай. — А мы-та глядзець бегалі, як яе ламаюць... Спачатку верхавінку, потым гадзіннічкі, а тамака ўжо ўсю астатнюю па цаглінках разнеслі... А мы-та бачым, у баку стаім і глядзім, а слёзы-та самі-ткі капаюць, ткі капаюць.. Дзесьці за месяц да Пятрова дня, вось як цяперака час быў, яе і разнеслі, галубачку... А цаглінкамі-та яе вуліцы пасля брукавалі. Ткі растапталі яе, матухну... Во, брат, як!..

Слёзы, што да гэтага моманту стаялі ў вачах добрай бабулькі, тонкім струменьчыкам пакаціліся на маршчыністыя шчокі. Лізавета Лукінішна схіляе твар і затуляе яго кваністым, дзе-нідзе прагаралым, фартушком.

Услед за Лізаветай Лукінішнай ўсхліпвае Юлія Сямёнаўна. І ўяўляецца ёй, як маці, маладая зусім дзяўчына, ходзіць узад-уперад па Мяшчанскай, смяецца і пазірае на малойчыкаў. І што апранутая яна ў шнураваную кашулю і чырвоны берэцік. А на нагах у яе парусінавыя белыя туфлі. І зусім не шкада Юліі Сямёнаўне Сухаравай вежы, знаёмай хіба што па малюначках ды па аповедах Лізаветы Лукінішны. Не. А шкада ёй, што маладосць праходзіць, і ўсё добрае, каштоўнае застаецца дзесьці там, на скрыжаванні Садовага і Срэценкі. Там, куды ўжо вярнуцца нельга ніколі...

— Ну, а ты-та чаго?! — пытае яе Аўгусціна Сямёнаўна. — Ты-та чаго завыла?

Але Юлія Сямёнаўна, захінуўшы сваім ручніком твар, толькі ўздрыгвае ў адказ. Уздрыгваюць яе плечы, уздрыгваюць грудзі, што ляжалі на ўскрайку стала, уздрыгвае двухпавярховае падбароддзе.

І, гледзячы на тое, як маці і сястра, самыя родныя, самыя блізкія ёй людзі мыюцца слязамі, Аўгусціна Сямёнаўна адчувае, што вочы пачынае здрадліва шчыпаць, а ў носе казытаць. І калі вярнуўся з вуліцы ўнук Юліі Сямёнаўны Іван, руды хлопчык гадоў трынаццаці з поўным, лагодным тварыкам, ён адразу ж зазірнуў на кухню, дзе застаў трох бабулек, якія смаркаюцца і выціраюць похапкам твары.

— Зноў, ці што, Сухараву вежу ўспаміналі? — з'едліва спытаў ён, пераводзячы позірк па чарзе на кожную з іх...

**З рускай.**

**Пераклад Васіля ТКАЧОВА**



Таццяна КРУГЛІКАВА

# Жыццё на хутары

**Таццяна Круглікава нарадзілася ў Ленінградзе. Дзіцем перажыла блакаду. Скончыўшы Ленінградскі хіміка-фармацэўтычны інстытут, трыццаць гадоў працавала па спецыяльнасці. Першыя апавяданні апублікавала ў газеце «Маяк» (г. Волагда). Даследаванні па гісторыі пецярбургскіх дамоў увайшлі ў зборнік «Портрет петербургского дома» (Санкт-Пецярбург, 2009). Таццяна Аляксееўна актыўна даследуе гісторыю сваёй сям'і, працуе з архівамі. Прапануем чытачам «ЛіМа» яе эсэ.**

Калі за акном непагадзь, узгадваюцца летнія дні, напоўненыя святлом, птушынымі галасамі… Пазамінулае лета я правяла ў Беларусі, у сваёй даўняй знаёмай — Тамары Сямёнаўны. Ёй пайшоў ужо дзявяты дзясятак. У Тамары Сямёнаўны вялікая сям'я: дзве дачкі, трое ўнукаў і шасцёра праўнукаў. Усе яны жывуць асобна, а да яе прыязджаюць толькі ў госці ці ў адпачынак.

Але тым летам яна адна жыла ў сваім доме — вялікім, з дзвюма верандамі, садам і агародам. На другім паверсе — два пакоі, адзін з якіх займала я. А на верандзе летам пастаянна жыла сям'я з Вільнюса — Юра і Крысціна. Абодва ўжо былі пенсіянерамі, і мы звярталіся адно да аднаго проста па імёнах. Але ў тое лета Юра прыехаў адзін.

Дом быў з трох бакоў акружаны лесам, а з чацвёртага віднелася асфальтаваная дарога. Але без транспарту — толькі экскурсійны паравозік з некалькімі маленькімі вагончыкамі ды веласіпеды. Гэтыя мясціны лічыліся курортнымі — непадалёк былі два санаторыі і дом адпачынку. Так што Тамара Сямёнаўна жыла нібы на хутары, адасобленым ад знешняга свету.

Кожны з нас увесь час быў заняты: гаспадыня ранкам даіла сваіх коз, карміла курэй, а пасля выганяла коз на пашу. Мы снедалі. Крыху адпачыўшы, Тамара Сямёнаўна ішла на агарод. Юра, як правіла, адказваў за ваду: патрэбныя бочкі і вёдры заўсёды былі напоўненыя. Зрэдку ён ездзіў на веласіпедзе ў магазін і зазвычай сам гатаваў сабе абед: у кухні была пліта на балонным газе.

Мне ж Тамара Сямёнаўна не давала рабіць нічога. «Ты ў нас госця!» — казала. Увогуле з ежай і пакупкамі праблем не было: пілі казінае малако, елі яйкі, у склепе была ўся гароднiна, а ў доме — запас мукі, круп, цукру і алею.

Якая асалода: столькі вольнага часу! Мая раніца пачыналася з купання ў возеры, якое было зусім блізка — за нейкіх сто метраў ад каліткі. Сцяжынка вяла па лесе, злева і справа суніцы ды чарніцы — усяго пакаштуеш, пакуль ідзеш. Многа шчаўя. Я прыходзіла на возера вельмі рана, калі адпачывальнікаў з найбліжэйшых санаторыяў яшчэ не было.

Зрэдку бачыла ля берага сям'ю лебедзяў: пара дарослых птушак ахоўвала вывадак з шасці шэрых камячкоў. Убачыўшы мяне, лебедзі выбіраліся на бераг: пэўна, думалі, што пакармлю. Але пасля сталі праплываць міма. А я назірала, як дзень пры дні падрастаюць лебедзяняты.

Удосталь наплаваўшыся, я вярталася дамоў, дзе мяне ўжо чакаў кубак малака. Сняданак часцей за ўсё і складаўся з малака, яечніцы ці сырога яйка ды хлеба. Час ад часу Тамара Сямёнаўна пякла блінцы на казінай сыроватцы, што заставалася ад вельмі смачнага тварагу, які яна сама рабіла з малака. Ласаваліся і дранікамі — пасля такога сняданку вельмі доўга не хацелася есці.

Потым я хадзіла па ўзлесках, збірала суніцы, ці выпраўлялася па пакупкі, ці што-небудзь гатавала. Але больш за ўсё любіла назіраць за жыццём двара. Днём з загона выпускалі пагуляць казляня. Важна крочыў прыгажун певень са сваёй сям'ёю, прыбягаў кот па мянушцы Бадзяга. Убачыўшы гаспадыню, настойліва мяўкаў. Значыць, у поўсці шмат кляшчоў. Тамара Сямёнаўна спрытна выцягвала іх. Па корм прыляталі птушкі, а аднойчы на зямлю зваліўся дзіцёнак кажана. Яго паднялі па ствале дрэва — да маці.

Я любавалася нават дахам адрыны, зробленым так, што ён у любы дождж заставаўся сухім. У такое надвор'е я падымалася ў свой пакой і, адчыніўшы акно, глядзела на неба, вершаліны соснаў, елак ды іншых дрэў, што абступалі дом. «Рай, дый годзе!» — думалася ў такія гадзіны. Здавалася, я адна ў цэлым свеце, няма ніякіх праблем. Не хацелася нават чытаць — толькі глядзець на неба, на дрэвы. Раз-пораз я засынала пад шум дажджу, а калі прачыналася, ужо выглядвала сонца, і двор ажываў.

Аднойчы, помню, ля дзвярэй дома выстраіліся певень і куры і быццам нечага чакаюць. «Смачненькага», — адказвае на маё пытанне гаспадыня. У кармушцы — крупы, у місцы — вада, наўкола поўна травы — усяго ўдосталь. Бяру лусту хлеба і вяду ўсю «кампанію» да кармушкі. Крышу хлеб на зерне. З'ядаюць усё!

У добрае надвор'е мы елі на свежым паветры — стол стаяў пад соснамі. Падчас трапезы пад яго лезлі куры — вось дык ласуны! У спёку яны пад тым жа сталом ратаваліся ад сонца.

Пад зямлёю жылі краты. Калісьці на наш «хутар» запаўзалі вужы — іх у тое лета было надзвычай многа. А аднойчы — нават гадзюка! А на возеры было многа чаек, асабліва раніцай.

Калі саспелі ягады, мы змешвалі іх з малаком ды тварагом. Увечары я абавязкова выпівала кубак парнога малака…

Прыйшла сенакосная пара. На дапамогу прыехалі дзеці ды ўнукі Тамары Сямёнаўны, і стала шумна. Працавала і я. Калі сена нарыхтавалі, мы засталіся адны. Але праз колькі дзён мне трэба было з'язджаць.

Ці паўторыцца яшчэ такі час?.. Ды нават калі і не, у памяці на ўсё жыццё застануцца дні спакою на ўлонні прыроды.

**З рускай.**

**Пераклад Яны ЯВІЧ**

Лёсы стара друкаў

# Сакрэты 440-гадовага Псалтыра

**Шмат кніжных скарбаў захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў карпатліва даследуюць кожны асобнік стара друкаванай кнігі. Пра багацці кніжніцы рэгулярна расказваюць падчас выставак і прэзентацый, якія праводзяцца ў акадэмічнай бібліятэцы і па-за яе межамі. Дзякуючы рубрыцы «Лёсы стара друкаў» у чытачоў ЛіМа з'явіцца магчымасць даведацца пра самае цікавае з «асабістага жыцця» старажытных кніг, што атрымалася высветліць падчас вывучэння асобнікаў: пра іх стваральнікаў, уладальнікаў і чытачоў, пра падзеі, сведкамі якіх былі кнігі.**

Кірылічная кніга адыгрывала значную ролю ў духоўнай культуры нашых продкаў, карысталася вялікай павагай і пашанай. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі захоўваецца 25 экзэмпляраў дваццаці кірылічных выданняў XVI стагоддзя. Гэта кнігі на царкоўнаславянскай мове, якія выйшлі з друкарняў Вільні, Масквы, Астрога, Заблудава. Большасць з іх прызначаныя для богаслужэння, маюць вялікі памер і значную вагу і нават знешнім выглядам сімвалізуюць вечнасць і нятленнасць Слова.

Кожны асобнік захоўвае шмат цікавай і каштоўнай інфармацыі. Свае сакрэты і ў 440-гадовага Псалтыра, выдадзенага Пятром Мсціслаўцам у Вільні, у Доме Мамонічаў, у 1576 г. Псалтыр — адна з галоўных богаслужбовых кніг. Апрача літургіі кніга часта выкарыстоўвалася ў паўсядзённым жыцці: па ёй навучалі грамаце, кнігай благаслаўлялі маладых, яе чыталі над памерлым, па ёй нават варажылі.

Выданне 1576 г. лічыцца дастаткова рэдкім, да нашага часу дайшла невялікая колькасць яго асобнікаў. Вядомыя 50 экзэмпляраў, у іх ліку ў Беларусі захоўваецца два: у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі. Асобнік ЦНБ НАН Беларусі не захаваўся ў першапачатковым выглядзе, ён страціў частку арыгінальных аркушаў, у тым ліку гравюру з выявай легендарнага аўтара Псалтыра — цара Давіда.

У кожнага з асобнікаў свая «біяграфія», пра якую можна даведацца, падрабязна вывучаючы кнігу, яе паперу, кніжныя знакі, пераплёт. Лёс нашага асобніка атрымалася высветліць пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. У гэты час кніга, верагодна, трапіла да старaабрадцаў. Як вядома, яны выступілі супраць рэформ патрыярха Нікана 1653 — 1655 гг., якія прадугледжвалі змяненні ў праваслаўных абрадах і выпраўленне стара друкаваных кніг. Стараабрадцы адстойвалі даўнія традыцыі, з вялікай пашанай ставіліся да стара друкаваных (нявыпраўленых) кніг, збіралі і зберагалі іх падчас пераследу ўлад і рэпрэсій.

Да XIX ст. асобнік дайшоў не ў ідэальным выглядзе, некаторыя аркушы страціліся, іншыя пашкодзіліся. У першай палове XIX ст. кніга старанна адрэстаўраваная. Яна была расплецена, раскладзена па аркушах. Пашкоджаныя аркушы руплiва паабразалі па баках і ўклеілі ў папяровыя рамкі, адсутныя фрагменты арыгінальнага друкаванага тэксту дапісалі, страчаныя аркушы замянілі рукапіснымі.

Цікава, што на рукапісных аркушах, апрача папаўнення страчанага тэксту, з'явіліся дадатковыя, якіх у арыгінале 1576 г. не было. Сярод дадатковых тэкстаў — малітвы і тэксты, звязаныя з пахавальным абрадам. Верагодна, дапаўненні з'явіліся, каб зрабіць Псалтыр XVI ст. зручным для паўсядзённага карыстання ў XIX ст. Тэксты былі запазычаныя з маскоўскіх дарэформенных выданняў і папулярных стараабрадніцкіх твораў.

Былыя ўладальнікі паклапаціліся і пра мастацкае афармленне кнігі. Упрыгожваюць рукапісныя лісты мініяцюра «Цар Давід», застаўкі стара друкаванага стылю, маляваныя ініцыялы і іншыя ўпрыгожванні.

Па завяршэнні рэстаўрацыі ў XIX ст. кніга была апранута ў новы пераплёт, зроблены па ўзоры старых «даніканаўскіх». Ён з дошак (адсюль выраз «прачытаць кнігу ад дошкі да дошкі»), абцягнутых карычневай скурай. На скуры цісненне ў выглядзе арнаментальных рамак, верхняе вечка ўпрыгожана сярэднікам і цісненнем «Книга глаголемая». Для большай захаванасці кнігі, замацавання вечкаў і фіксацыі іх у нязменным стане пераплёт быў забяспечаны дзвюма накладнымі зашпількамі, з якіх захавалася адна з жоўтага металу ў выглядзе літой спражкі з кручком. На верхнім вечку след нейкага замацавання кнігі, магчыма, яе прышрубоўвалі да прастолу царквы або падстаўкі-трымальніка.

На адной са старонак былыя ўладальнікі пакінулі памінальны запіс: «…преставилась раба Божея Феодосия Наталья Кондратьевна месяца марта во 2-рый день 1845 года. Жила всех лет 42 года».

На гэтым «мірское» жыццё асобніка заканчваецца. Ён быў выключаны з жывога выкарыстання і пачаў падарожжа па бібліятэчных паліцах. На старонках з'явіліся кніжныя знакі Бібліятэкі Маскоўскай духоўнай акадэміі (штамп), Маскоўскай сінадальнай бібліятэкі (экслібрыс), Музея кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна (цяпер Расійская дзяржаўная бібліятэка) (бібліятэчныя пазнакі).

Верагодна, пасля 1845 г. наш асобнік быў канфіскаваны ў былых уладальнікаў-стараабрадцаў і стаў уласнасцю Сінадальнай бібліятэкі. Сінадальная бібліятэка ў Маскве была адным з найбуйнейшых кнігазбораў Еўропы. Пры бібліятэцы



захоўваліся рукапісы і кнігі, адабраныя ў стараабрадцаў у 1841 — 1855 гг. Частка з іх была перададзеная ў Маскоўскую духоўную акадэмію.

У 1854 г., падчас барацьбы са стараабрадніцтвам, у Маскоўскай духоўнай акадэміі было адкрыта місіянерскае аддзяленне. У бібліятэцы стварылі спецыяльны раздзел, прысвечаны стараабрадніцкай літаратуры. Навучэнцы карысталіся кнігамі як дапаможнікамі для практычных заняткаў. Верагодна, такім чынам трапіў у склад фундаментальнай бібліятэкі і наш асобнік.

У 1919 г. бібліятэка Маскоўскай духоўнай акадэміі была поўнасцю перададзена Румянцаўскаму музею. Бібліятэка, якая была створана ў 1862 г. у складзе музея, у 1924 г. атрымала назву Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна. І ўжо адсюль у 1965 г. паступіла ў Мінск на сучаснае месца захавання.

Асобнік Псалтыра 1576 г. часта выкарыстоўваецца ў выставачнай і экскурсійнай дзейнасці аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі. Наведвальнікі маюць магчымасць даведацца пра асабістую гісторыю кнігі, пабачыць ініцыялы і адметны шрыфт таленавітага майстра Пятра Мсціслаўца, а таксама дадатак XIX ст. — мініяцюру «Цар Давід», выкананую чорнай тушшу і размаляваную акварэльнымі фарбамі. Малюнак нагадвае вобраз традыцыйнага аўтара псалмоў на гравюры Пятра Мсціслаўца, але ў спрошчанай форме, у лубачнай манеры. Цар Давід больш падобны да цара з народных казак, ён складае псалмы не ў асяроддзі велічных вазонаў і калон, а сярод рэальных бытавых прадметаў. Такім, відаць, уяўлялі цара Давіда былыя ўладальнікі кнігі — стараабрадцы.

**Алена ЦІТАВЕЦ, загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі**

З пошты «ЛіМа»

# Свет невымоўны

Прыкмечаная ў анатацыі шматграннасць пачуццяў, выказаных у любоўнай лірыцы Лізаветы Паляес, здзіўляе. Гэта справядліва і для ранейшай кнігі «Не приучай меня к себе», і для адной новай, выдадзенай у 2015 годзе, — «Свет несказанный».

Сціплая няяркая вокладка рэзка кантрастуе з багатым зместам зборніка. «Рождение», «Детство», «Юность», «Земная ноша», «И много еще впереди многоточий…» — вершы захапляюць разнастайнасцю сфер чалавечага быцця ў іх паэтычным выяўленні. Бачна, у паэтэсы назбіралася дастаткова матэрыялу для падвядзення паўнага высноў жыццёвага і творчага шляху.

Аднак асвятленне біяграфічнай лініі нязменна суседнічае з філасофскім асэнсаваннем жыцця ў цэлым, творчасці, а ў прыватнасці — лёсу і наканавання паэта. Цікавая тут гісторыя ўзнікнення (ці ўсё ж нараджэння?) верша:

*Без музыки? Боюсь, что не смогу.*
*Без музыки? Как будто дни без солнца.*
*Без музыки? Я у нее в долгу,*
*Она во мне — до нежности, до донца…*

Асабліва ярка выяўляецца філасофская лірыка ў раздзелах «Это другая» і «Земная ноша».

Паэтэса сталее («Я теперь немного больше помню...»), усведамляе паэтычны дар («С цепи сорвалась — и помчалась вдогонку по рельсам, по шпалам, путям, перегонам... туда, где шальная беспечная воля...»). Так і павейвае ад гэтых радкоў, вобразаў булгакаўскай Маргарыты, воляй і няўрымслівасцю. Штопраўда, да вобраза Маргарыты дадаюцца рысы з партрэта Майстра:

*Но кто-то звук освободил,*
*шитье полилось гладью,*
*и стало не хватать чернил*
*на белые тетради…*

«С зажатым ртом я двадцать лет не плакала, не пела…»

Надзея і адчай, здрада і сумневы, радасць і гора абавязкова ідуць поплеч, і, быць можа, гэта і дазваляе аўтару расці, рушыць наперад.

Як, пэўна, кожны аўтар, Л. Паляес разважае пра наканаванне паэта (раздзел «Две страсти»). Такія паняцці, як слава, забыццё, мара, творчасць, Радзіма, душа, робіцца аб'ёмнымі, шматвобразнымі. Цікава, што ў названым раздзеле прасочваецца перагук эпох — XX і XXI стагоддзяў. Як некалі Уладзімір Маякоўскі, «парадом развернув» сваё «войска», праходзіў «по строчечному фронту…» (паэма «Во весь голос»), так і Лізавета Паляес выводзіць «вперед защитным войском / кровью сердца выжженные строчки...» («У поэта есть одно лекарство…»).

Яе паэтычны свет непарыўна звязаны з іншымі творцамі — Марынай Цвятаевай, Ганнай Ахматавай: «Я вам обеим поклонюсь, Марина с Анною…». Шмат вершаў прысвечана памяці вялікага паэта, нядаўняга нашага сучасніка Веніяміна Блажэннага:

*Где-то, за невидимою гранью,*
*Одолев земные рубежи,*
*Ходит тихий одинокий странник,*
*От страстей избавленный и лжи.*

Зрэшты, тэма духоўнасці, боскай сутнасці, творчасці гучыць у многіх вершах паэтэсы («Свет», «Путь», «Буду спать. Еще не утро — вечер…», «Свет несказанный, свет безутешный…»). Апрача таго, узнікае матыў дваістасці: праблема кахання да мужчыны і любові да творчасці.

Урэшце, колькі слоў пра любоўную лірыку ў зборніку (раздзелы «Знак любви» і «Плачет скрипка»). Разнастайныя, глыбокія, тонкія, супярэчлівыя пачуцці! Адзін стан незаўважна ператвараецца ў іншы.

*Бродит ночь по бессонной квартире,*
*Звезды вспыхнули тысячью жал.*
*Пощади, мой единственный в мире!*
*Перед смертью любви — уезжай.*

«Разрыв»

Як чытачу кніга «Свет невымоўны» бачыцца мне разумнай, цёплай, з высокім напалам страсцей. Яна не павучае, але падказвае і дапамагае жыць. Кніга, якая нясе святло — ачышчальнага болю, дабрыні, любові.

**Галіна МАХАЕВА**

# На плыні часу

## Як адбываецца пераацэнка каштоўнасцей цягам жыцця ў мастацтве

**«Сёння мы назіраем чарговае мастацкае свята» — менавіта такімі словамі звычайна старшыня Саюза мастакоў Беларусі Рыгор Сітніца адкрывае выстаўкі ў Палацы мастацтваў. На гэты раз усе выставачныя залы палаца не проста святочныя, а юбілейныя. На двух паверхах вялікага будынка размясціліся работы Лявона Грышука, Леаніда Данеліі, Аляксандра Грэся, Анатоля Ізаіткі і Мікалая Драненкі.**



*Леанід Данелія «Лара», 2016 г.*

Пра сэнс і мэты юбілейнага праекта карэспандэнту "ЛіМа" расказаў намеснік старшыні па выставачнай дзейнасці Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў:

— Выстаўка прысвечаная юбілярам, але гэта не значыць, што Саюз мастакоў робіць адсылку да ўзросту. Мы імкнёмся паказаць гледачу пэўны гістарычны зрэз у мастацтве, бо прадстаўленыя творцы зрабілі вялікі ўнёсак у фарміраванне сучаснай беларускай культуры. На творчасці прадстаўленых мастакоў выхоўваліся і выхоўваюцца пакаленні. На шчасце, у Беларусі існуюць цэлыя школы, якія захапляюць адметным падыходам, навізной ідэй. Напрыклад, моцная віцебская акварэльная школа, якую абавязкова трэба і развіваць, і працягваць, нават піярыць. На выстаўцы цікава прасачыць пераацэнку каштоўнасцей, што з цягам часу назіраецца ў жыцці кожнага з мастакоў. Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў галерэі і творчасці аўтараў мы, безумоўна, знаходзімся ў зале сучаснага мастацтва.

### ЯРКАЕ НА СІНІМ

Трапляючы ў Палац мастацтваў на такую разнастайную выстаўку, адразу ж настройваешся на выбар лепшага, найбольш блізкага душы аўтара. Але папярэджу: зрабіць выбар нялёгка. Пераходзячы з адной залы ў наступную, ловіш адчуванне, што ты закахаўся ў гэтыя палотны і яны падштурхоўваюць успомніць нешта запаветнае.

Першая зала, у якой апынаецца глядач, прадстаўляе работы мастака **Леаніда Данеліі**, якому сёлета споўнілася семдзесят год. Аўтар, які шмат працуе не толькі ў галіне жывапісу і станковай графікі, займаецца мастацкім праектаваннем інтэр'ераў памяшканняў грамадскага значэння, на палотнах тонка падкрэслівае, што прыгажосць, асабліва жаночая, — гэта адзін з кампанентаў эстэтыкі і носьбіт мастацкай гармоніі. Прадстаўленая калекцыя аўтара спалучае традыцыі рэалізму і абстракцыянізму. Агаленыя жанчыны ў спалучэнні з яркімі адценнямі розных колераў, вобразы прыгажунь, іх вытанчанасць аўтар выкарыстоўвае ў якасці нагоды — захаваць унікальнасць моманту назаўсёды. Леанід Данелія аддае перавагу вялікім палотнам, на якіх сюжэт выглядае больш выразным, маштабным. У такіх абстрактных работах творцы, як «Рака часу» альбо «Вясновы карагод», памер карціны адыгрывае значную ролю: прыцягваюць дэталі. Каб «прачытаць» сюжэт карціны, нават у вялікае палатно трэба ўглядацца. Самі назвы даюць глебу для роздуму і фантазіі.

### ЦЁПЛЫ ЗЯЛЁНЫ

Наступная зала, у якую трапляе наведвальнік Палаца мастацтваў, скіроўвае да творчасці **Аляксандра Грэся**. Тут пануюць матывы беларускай прыроды. Восеньская лістота, блакіт азёр, хуткая плынь рэк, першы бялюткі снежаньскі снег, дрэвы ў квецені і іншыя прыродныя з'явы аўтар пераносіць на палотны, захоўваючы родныя краявіды рэалістычнымі, знаёмымі воку.

Аўтар, які нарадзіўся ў Брагіне, лічыць, што беларуская зямля — скарбонка цудаў, дзе для кожнага знойдзецца кавалачак шчасця.

Аляксандр Грэсь — мастак-самавучка. Акрамя жывапісу ён стварае цудоўныя рэчы з лазы і саломы, якія прывабліваюць самабытнасцю, нацыянальнай тэматыкай, каларытам. Некаторыя кошыкі, куфэркі, капелюшы, цукарніцы таксама з'яўляюцца экспанатамі выстаўкі.

### СВЕТЛАЕ І ЧЫСТАЕ

На другім паверсе ў правай частцы палаца экспануюцца творы **Лявона Грышука**, творчасць якога будуецца на двух тэматычных блоках. У першы ўваходзяць біблейскія тэмы. Добрая вестка пра Ісуса Хрыста і прыход да Бога — менавіта гэтыя матывы сталі выратавальнымі для мастака ў самыя цяжкія часы. На палотнах ён завуаляване дэманструе існаванне дабрыні і зла на шляху чалавека, не акцэнтуе ўвагу на адрозненнях, наадварот: яго карціны выглядаюць размытымі. Такім чынам аўтар дае магчымасць гледачу самому зразумець, што тут светлае і чыстае, а што, наадварот, жорсткае і непрымальнае.

Пейзажнаму жывапісу Лявона Грышука адведзена значная частка экспазіцыі. Прыродная тэма выяўляе лірычную натуру аўтара, яго прыхільнасць да ўспамінаў дзяцінства, юнацтва. Летнія і восеньскія краявіды дынамічна мяняюць колер на вясновыя. Зноў і зноў у душы абуджаецца пачуццё настальгіі па чароўных момантах, калі басанож можна гуляць па мокрай траве альбо ў лесе слухаць птушак. Такі жывапіс — нібы глыток свежага паветра ў спякотнай гарадской прасторы.



*Лявон Грышук «На канале Агінскага», 2015 г.*

### МІСТЫЧНЫ БЛАКІТ

Віцебскі мастак **Анатоль Ізаітка** сышоў у 2014 годзе. Але ў яго творах — стрыманых і сімвалічных — тое важнае, што аўтар хацеў сказаць.

Пейзажы і людзі, таямнічыя і загадкавыя, спалучаюцца ў яго работах. Мастацкі почырк Анатоля Ізаіткі немагчыма не пазнаць. На палотнах — пераасэнсаваныя старажытныя беларускія легенды, народныя святы і матывы старажытных вучэнняў — грэчаскай міфалогіі і філасофіі. Здаецца, што прадстаўленыя карціны звязаны агульнай дынамікай. Людзі на іх задуменныя, шукаюць таямнічыя знакі лёсу.

Анатоль Ізаітка любіў упісваць сюжэты ў спрадвечна беларускі ландшафт. Ён добра ведаў прыгожыя куткі Віцебшчыны, дзе з эцюднікам правёў шмат часу. Таму краявіды горада на Дзвіне прасочваюцца амаль ва ўсіх палотнах.

### ЦЯКУЧАСЦЬ КОЛЕРАЎ

Мастацкія кампазіцыі **Мікалая Драненкі...** Тут зноў прысутнічаюць матывы і прыгажосць Віцебска. Акварэльныя работы майстра відавочна паказваюць: вялікую ўвагу аўтар надае сумяшчэнню традыцыйных сюжэтаў і эксперыменту. Ён імкнецца да свабоднага выкарыстання выяўленчых тэхнік.

Акрамя пейзажаў экспануюцца і нацюрморты з кветкамі: на некаторых ружы выглядаюць простымі, нязвыкла звычайнымі, а іншым палявыя кветкі надаюць своеасаблівую вытанчанасць. На першы погляд акварэльныя работы мастака — гімн роднай прыродзе. Але гэта яшчэ і разважанні пра яе захаванне.

Работы Мікалая Драненкі пакідаюць месца для шматкроп'я, за якім — працяг адлюстравання свету.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Анатоль Ізаітка «Калядны сон», 2006 г.*

# Надзея КУЧАР: «Пачала моцна сумаваць па родных мясцінах»

## Важкія складнікі жыцця беларускай опернай дзівы

**8 верасня на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі Надзея Кучар выканае галоўную жаночую партыю ў оперы «Царская нявеста» Мікалая Рымскага-Корсакава.**



Імя беларускай опернай спявачкі Надзеі Кучар, якая, абышоўшы дзевятнаццаць канкурэнтаў, перамагла ў фінале прэстыжнага брытанскага конкурсу *BBC Cardiff Singer of the World* і атрымала званне лепшай спявачкі на планеце, у мастацкіх, культурных асяродках розных краін свету стала сапраўдным брэндам оперы. Нягледзячы на тое, што Надзея — салістка Пермскага тэатра оперы і балета імя Чайкоўскага, на ўсіх конкурсах прадстаўляе сябе менавіта беларускай спявачкай. Чым гэта абумоўлена: любоўю, тугой па роднай зямлі альбо іншымі фактарамі? На пытанні пра тое, што значыць для Надзеі Беларусь, што змянілася ў яе жыцці пасля перамогі ў Кардыфе і якімі праектамі спявачка займаецца гэтымі летнімі днямі, карэспандэнту «ЛіМа» Надзея Кучар адказала асабіста:

**— Надзея, што для вас Беларусь: месца, дзе вы нарадзіліся, альбо нешта большае? Ці ёсць пэўная душэўная сувязь з роднай зямлёй?**

— Безумоўна, сувязь ёсць, яшчэ якая! Тут мае родныя, сябры дзяцінства. Калі жыла ў Расіі, праз некалькі гадоў пачала моцна сумаваць па родных мясцінах, па доме, маці, сёстрах, пляменніках. Родныя месцы часта бачыла ў снах. У выніку вырашыла вярнуцца ў Мінск. Цяпер з гастроляў адразу прыязджаю сюды.

**— У інтэрв'ю, якое вы давалі аднаму з расійскіх выданняў, я прачытала: вы лічыце, што ў Беларусі не да канца ўсведамляюць, наколькі маштабную перамогу вы атрымалі ў Кардыфе. Магчыма, ваша меркаванне змянілася пасля чэрвеньскага канцэрта ў Мінску, бо ўся сталіца толькі і казала пра вас і з нецярпеннем чакала магчымасці пачуць ваш голас?**

— Мне здаецца, што ўсведамленне беларусаў пачало прыходзіць паступова. Канечне, беларускія сродкі масавай інфармацыі адрэагавалі адразу. У першыя месяцы пасля Кардыфа мне давялося даваць шмат інтэрв'ю. Але ж я добра разумею, што падобнага роду перамогі ў Беларусі крыху ў цэну, таму што опера — від мастацтва, які быў і застаецца папулярным у вельмі вузкіх колах.

**— Ці можаце вы сказаць, апісаць словамі адчуванне: што значыць быць першай, лепшай на планеце?**

— Быць першай — прыемна і радасна, але я не лепшая на планеце, не трэба перабольшваць. Перамогу ўспрымаю як асабістую і разумею па-свойму, толькі мне вядома, якога яна ўзроўню. Пасля вялікай колькасці конкурсаў у маім вакальным жыцці, пасля шматлікіх перамог і няўдач я магу расцэньваць яе менавіта так.

**— Я ведаю, што перад гэтым конкурсам у вас быў досыць шырокі досвед удзелу ў розных конкурсных праектах (здаецца, іх каля трынаццаці). Але ці адчулі вы нейкае эмацыянальнае ўзрушэнне, магчыма, прадчуванне грандыёзнай перамогі?**

— Прадчуванняў перамогі не было, іх і не можа быць, таму што, па-першае, ёсць журы, а яно заўсёды суб'ектыўнае, падругое, ніколі не ведаеш, якія твае канкурэнты.

**— Наколькі змянілася ваша жыццё пасля перамогі?**

— У прафесійным плане не магу казаць, што нешта кардынальна змянілася. Як працавала раней, так і працую зараз, дзякуй, ёсць дзе. Аднак магу адзначыць, што вялікую цікавасць пасля перамогі да мяне праявіла Англія, усё часцей я стала атрымліваць запрашэнні адтуль. Змянілася, напэўна, стаўленне да мяне калег, сваякоў і сяброў.

**— Вы шмат працавалі ў рэпертуарным тэатры, а сёння даяце сольныя канцэрты па ўсім свеце. Што вам падабаецца больш? Альбо і ў першым, і ў другім выпадку ёсць цікавыя дэталі працы?**

— У абодвух варыянтах свае плюсы і мінусы. Працуючы ў рэпертуарным тэатры, то бок, знаходзячыся на адным месцы, зрэдку выязджаеш на гастролі. Тут вялікі прывілей — жыць спакойна, быць разам з сям'ёй. Але ж многім такая праца можа надакучыць, так атрымалася ў маім выпадку. Спяваць з году ў год адзін і той жа рэпертуар і зрэдку прымаць удзел у новых пастаноўках, аказалася, — не маё.

Але калі ты вольны мастак, тут свае нюансы, і вельмі сур'ёзныя, шмат каму могуць сапсаваць усю маліну. Напрыклад, пастаянныя пералёты з краіны ў краіну, з аднаго кантынента ў іншы. Арганізм, нядоўга думаючы, пачаў даваць, мякка кажучы, нечаканыя сюрпрызы. Другі момант — частыя расстанні з сям'ёй і адзінота, да чаго ніяк не магу прывыкнуць. Да ўсяго кожны раз новая краіна, дзе абсалютна іншы, чым у папярэдняй, менталітэт, мова, правілы грамадскіх паводзін, клімат, ежа і яшчэ шмат фактараў. Да ўсяго гэтага даводзіцца прывыкаць. Толькі прывык, а ўжо вяртаешся назад. Усё ідзе па адным коле. Так што трэба быць вельмі моцным, каб вытрымліваць падобныя фізічныя, эмацыянальныя нагрузкі.

**— Ці былі такія людзі ў вашай асабістай гісторыі, якімі вы захапляліся, на якіх хацелася б быць падобнай у прафесійным плане? І ці ёсць такія натхняльнікі цяпер?**

— Вядома, такія людзі былі, ёсць і будуць заўсёды. Без аўтарытэтаў і арыенціраў нікуды! Гэта сусветна прызнаныя эталоны, такія як Джоан Сазэрлэнд (яна была і застаецца маім «настаўнікам» да сённяшняга дня), Франка Карэлі, Шырлі Верэт, Эленор Штэбер, Маргарэт Прайс, Мірэла Фрэні, Джузэпэ Джакаміні, Мансэрат Кабальє і многія іншыя (спіс можа быць вельмі доўгім). Ёсць і якія жывуць сёння, напрыклад Марыела Дэвіа.

**— У якой краіне вам падабаецца выступаць больш за ўсё?**

— Нават не ведаю, якую краіну варта адзначыць... Усюды падабаецца! Неяк так складваецца, што мне шанцуе як на каманду, з якой трэба адпрацаваць той ці іншы праект, так і на публіку.

**— Калісьці ў Мінску ў оперным тэатры не захацелі праслухаць вашы запісы. Вас гэта пакрыўдзіла, ці зараз вы мяркуеце, што ўсё да лепшага?**

— Ніколі не ведаеш, што апынецца ў выніку лепш, а што — горш. Той выпадак быў вельмі даўно, і я ўжо не памятаю пачуццяў. Ну, вядома, было крыўдна, любому чалавеку было б непрыемна. Але тады і кіраўніцтва было іншае, цяпер яно змянілася. Праз год пасля перамогі мяне запрасілі спяваць спектакль у Вялікі тэатр оперы і балета ў Мінску, дарэчы, дзякуючы дырыжору тэатра Вячаславу Волічу.

**— Як вы апынуліся ў Пермі і наколькі гэты горад стаў блізкі ў плане жыццёвым і творчым?**

— У Перм мяне запрасіў працаваць маэстра Тэадор Курэнтзіс. Але, на жаль, пасля ад'езду мужа ў Маскву я не змагла больш жыць у Пермі адна: горад, мякка кажучы, не мой. Там выдатны тэатр, але туга па радзіме і адзінота зрабілі сваю справу, і я вярнулася ў Мінск. Але ж па-ранейшаму з'яўляюся салісткай Пермскага тэатра оперы і балета.

**— У многіх творчых, таленавітых людзей ёсць дэвіз жыцця і сакрэт поспеху. Пра сакрэт пытацца не буду (на тое ён і сакрэт), а вось пра дэвіз пацікаўлюся...**

— Мой унутраны дэвіз ведаюць мае блізкія, але раскрываць яго не буду. Скажу толькі, што гэта цытата з рамана Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта».

**— Надзея, рыхтуючыся да канцэртаў, вы і да сённяшніх дзён адчуваеце хваляванне, альбо з досведам гэта знікае?**

— Перад выступам я магу моцна нервавацца. Гэта можа быць звязана з пэўнымі вонкавымі фактарамі, якія спрабуюць перашкодзіць добраму выступленню. Але як толькі выходжу на сцэну, усё хваляванне кудысьці знікае. Увогуле многія артысты хутчэй хочуць пачаць канцэрт, каб нарэшце нервавасць сышла.

**— Якія творчыя праекты вы рэалізуеце сёння?**

— Я працую ў Чылі, задзейнічаная ў пастаноўцы оперы Джоакіна Расіні «Танкрэд». Выконваю абсалютна новую для сябе ролю Аменаіды, каханай Танкрэда.

**Вікторыя АСКЕРА**

### Даведка «ЛіМа»:

Беларуская оперная спявачка Надзея Кучар нарадзілася ў Мінску ў 1983 годзе. У 2003-м выдатна скончыла Мінскае музычнае вучылішча імя Міхаіла Глінкі па спецыяльнасці «Музыказнаўства». Пасля заканчэння адпрацавала тры сезоны ў хоры ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі. У 2006 годзе Надзея стала лаўрэатам І прэміі конкурсу вакалістаў у межах Міжнароднага фестывалю духавой музыкі «Магутны Божа». У 2007 годзе адбыўся дэбют Надзеі ў тэатры оперы і балета Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі (партыя Марфы ў оперы Мікалая Рымскага-Корсакава «Царская нявеста»), а ў 2009-м ужо на прафесійнай сцэне — у Міхайлаўскім тэатры — Надзея дэбютавала ў партыі Віялеты ў оперы Джузэпэ Вердзі «Травіята». У кастрычніку 2010 года ў Пекіне адбыўся першы сольны канцэрт Надзеі Кучар на сцэне пекінскай канцэртнай залы. У 2011 годзе спявачка скончыла Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную кансерваторыю імя Н. А. Рымскага-Корсакава. У кастрычніку 2012 г. уладальніца Гран-пры Міжнароднага конкурсу вакалістаў у Галандыі. Стала лаўрэатам прэміі «Залатая маска» у 2013 годзе за выкананне партыі Медэі ў оперы «*Medeamaterial*». А ў красавіку 2015 года ў другі раз становіцца лаўрэатам прэміі «Залатая маска» ў намінацыі «Опера — жаночая роля» за выкананне партыі Дон'і Ісабэль у семі-оперы «Каралева індзейцаў». У чэрвені 2015 года Надзея выйграла Міжнародны конкурс оперных спевакоў у Кардыфе, на якім прадстаўляла Беларусь. З гэтага моманту графік опернай спявачкі распісаны па хвілінах. Яна актыўна гастралюе па свеце з сольнымі канцэртамі і ў той жа час з'яўляецца салісткай Пермскага тэатра оперы і балета, дзе працуе з 2012 года.

# КІНЕМАТАГРАФІЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ: МІНСК НА ЭКРАНАХ

## Каго лавіў Бандарчук ля Опернага і чаму тапілі Парк Чалюскінцаў?

*Сталіца Беларусі — горад, прывабны для стварэння кіно расійскіх (і не толькі!) рэжысёраў, здаецца, не менш, чым загадкавая Барселона для Пэдра Альмадовара альбо Тома Тыквера. Вырашальныя плюсы — блізкасць культур, агульнае савецкае мінулае (з якога вынікае сталінскі ампір і рарытэтныя крамы накшталт «Ласунку»), а таксама грашовая эканомія і малая колькасць рэкламы на вуліцах. У Мінску здымаць нашмат танней і спакайней, чым, скажам, у Маскве. Таму і два гарады часта выдаюць адзін за аднаго, пераносячы дзеянне незнарок у гады 1950 — 1970-я. Якія ж куткі сталіцы найбольш папулярныя сярод кінематаграфічных майстроў з іншых краін?*

### Французы ў музеі і Крэмль замест Палаца Рэспублікі

Некалькі сцэн з эксцэнтрычнай меладрамы-мюзікла «Стылягі» Валерый Тадароўскі здымаў каля... сталічнага ГУМа. Праспект Незалежнасці рэжысёр ператварыў у шумны і яркі імправізаваны Брадвей, па якім шпацыравалі ярка апранутыя, па модзе Амерыкі 50-х, вясёлыя юнакі і дзяўчаты, якія пратэстуюць, па сюжэце, супраць шэрага савецкага аскетызму. Сярод натоўпу — зорка фільма «Сёстры» і адна з самых яркіх артыстак гэтай ленты Аксана Акіньшына. Акрамя таго, бацька галоўнага героя (ролю выканаў Сяргей Гармаш) на мінскім трамваі адпраўляецца на працу па вуліцы Кастрычніцкай. Праспект стаў праекцыяй маскоўскай вуліцы Горкага 1950-х гадоў. Некалькі момантаў было знята таксама каля Нацыянальнага мастацкага музея і Мінскага лікёра-гарэлачнага завода «Крышталь». Сцэны атрымаліся, між іншым, вельмі гарманічнымі.

Яшчэ адна нашумелая расійская лента — «Шпіён» Аляксея Андрыянава (па адной з кніг Барыса Акуніна) — таксама здымалася збольшага на праспекце Незалежнасці. А менавіта — бліжэй да плошчы Перамогі, каля таго самага белага плота уздоўж парку імя Янкі Купалы перад домам-музеем I з'езда РСДРП. Тут шпацыравалі Даніла Казлоўскі і Фёдар Бандарчук, ажыўлена размаўляючы. Але зусім не пра надвор'е і прыгожыя краявіды. Пакуль мінчукі спяшаліся на працу і ў краму на другім баку вуліцы, героі прадумвалі контрплан «Задума», каб рассакрэціць фашысцкі шпіянаж і дату пачатку вайны. Мільгае ў кадры і вуліца Багдановіча (чым не маскоўская магістраль?). Але адзін з самых эпічных момантаў — пагоня за нямецкім шпіёнам. Гонка пачынаецца ад Опернага тэатра, а потым перамяшчаецца на праспект (у тым ліку да будынка КДБ), у канцы якога стараннямі мастакоў вырастае Крэмль.

З'яўляецца ў кадрах і кінатэатр «Цэнтральны», праўда, са старымі афішамі і рускім надпісам, а Свіслач лёгка ператвараецца ў Масква-раку. Жылыя дамы ў раёне праспекта ля ўвахода ў парк Янкі Купалы «аддаюцца пад апеку» штабу НКВД. З Мінскай суворaўскай вучэльняй — таксама сур'ёзныя пертурбацыі. Будынак становіцца савецкім гастраномам. Прастора сталіцы, як бачна, дазваляе эксперыментаваць з фантазіяй. «Мінская Масква» ў «Шпіёне» выйшла, з аднаго боку, футурыстычнай, з іншага — класічнай. А наогул, нягледзячы на «дамалёўкі», у нашую архітэктуру амаль не ўмешваліся.

Фільм «ПіраМММіда» Эльдара Салаватава таксама ілюструе Расію ў Беларусі, праўда, перыяду 90-х. Тут і пагоні, і забойствы, і выкраданні. Перыяд страчаных укладаў і фінансавых пірамід… Што зробіш. У галоўных ролях — Аляксей Серабракоў і зноў жа Фёдар Бандарчук. Замест офіса галоўнага банка — Палац прафсаюзаў. Палац Рэспублікі таксама задзейнічаны, прычым, і яго ўнутранае ўбранне. Заходзячы, трапляеш адразу ж у… Дом урада Расіі. Нацыянальная школа прыгажосці сталіцы таксама змянілася: «прымерала» абліччa вядомага тэлецэнтра «Астанкіна».

У Мінску здымаюць, як высветлілася, не толькі расіяне. Французская драма «Тры ўспаміны пра маё юнацтва» Арно Дэплешэна, аднаго з фаварытаў Канскага кінафестывалю, расказвае пра антраполага, што вяртаецца з працы ў Таджыкістане на радзіму, у Францыю, і актыўна ўспамінае сваё дзяцінства, студэнцтва і любоў усяго жыцця… У некалькіх месцах фільма заўважны Нацыянальны мастацкі музей, а таксама прылеглыя да яго вуліцы Леніна і Кастрычніцкая. Тут 16-гадовы герой з сябрамі, схадзіўшы на экскурсію, адпраўляецца передаваць дакументы і грошы габрэям, якіх не выпускаюць з краіны. Дарэчы, народная артыстка Беларусі Зінаіда Зубкова, якую сам рэжысёр назваў «актрысай Хічкока», выконвае ролю наглядчыцы музея.



Кадр з фільма «Стылягі». Сустрэча ля ГУМа.

### Паркавая рамантыка, альбо Крысціян Дыор ля завода

У зялёных культурных зонах сталіцы, парках і скверах, любяць здымаць рамантычныя фільмы, дзе прагульваюцца па алеях, трымаючыся за рукі, альбо сядзяць на лаўцы пад магутным дубам. Але гэта не ўсё. Яшчэ ў 70-я гады цэлую серыю кадраў з юнацкай кінастужкі «Па сакрэце ўсяму свету», створанай па матывах «Дзяніскіных апавяданняў» Віктара Драгунскага, знялі ў парку Чалюскінцаў. Дзяніс Караблёў катаўся на нашых атракцыёнах.



Кадр з фільма «Чырвоная каралева».

У парку Янкі Купалы падчас здымак фільмаў сустрэць можна, прыкладам, Аду Рогаўцаву і Арцёма Ткачэнку. Для мясцовых жыхароў ужо не ў навіну пабачыць на лаўках дзяўчат, апранутых у элегантныя прыталеныя спадніцы з 50-х, з характэрнымі завітымі прычоскамі. Тут здымалі, напрыклад, серыял «Чырвоная каралева» Алены Сямёнавай пра «самую прыгожую зброю Крамля» з вельмі трагічным лёсам, легендарную савецкую манекеншчыцу Рэгіну Збарскую. У фільм трапіў таксама завод імя Кірава, побач з паркам Горкага, дзе зладзілі рынак «Цішынка» з паказам мод і прыездам самога Крысціяна Дыора.

### Дэтэктыўная Лошыца і мясціны спакою

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо — ідэальнае месца для стварэння фільмаў на вясковую тэматыку, бо менавіта тут дакладна ўзноўлены побыт беларускіх сялян мінулага стагоддзя. І ўвогуле пераважае спакойная атмасфера, як быццам і праўда паглыбляешся ў мінулае з яго фальклорным і этнаграфічным каларытам. Гістарычную драму «Поп» Уладзіміра Хаціненкі пра святароў з Прыбалтыкі, што адраджалі веру ў Бога на акупаваных немцамі землях, здымалі менавіта тут. Задзейнічалі Сяргея Макавецкага, Ніну Усатаву, Генадзя Гарбука. Там жа, у Азярцы, здымаліся карціны «Вольф Месінг», «У чэрвені 41-га».

А Лошыца, у прыватнасці сядзіба Любанскіх, прыдатная, як высветлілася, для аднаўлення антуражу і дэтэктываў (серыял «Корцік» Мікалая Калініна), і лірычных стужак («Нетэрміновая вясна» Уладзіміра Талкачыкава). Тут здымаўся і серыял «Анёл-ахоўнік» Максіма Дземчанкі, які ахоплівае перыяд у цэлых 130 гадоў, гісторыю пяці пакаленняў сям'і. Асабняк стаў універсальнай дэкарацыяй, ператварыўшыся ў санаторый, музей і шпіталь.



Кінематаграфічныя пераўвасабленні. Лошыцкая сядзіба.

### Тайга пад Мінскам і патоп у метро

Рускі рэжысёр Дзмітрый Астрахан, можна сказаць, прапісаўся ў Беларусі. Ён здымае ў нас амаль усе свае фільмы. Успомнім хаця б «Залу чакання», стужку, знятую амаль 20 гадоў таму з выдатнымі акцёрамі — Вячаславам Ціханавым, Міхаілам Ульянавым, Міхаілам Баярскім... Мінск ператварыўся ў правінцыйны Зарэчанск, а вакзалам стаў наш «Мінск-Усходні».

Але сапраўднай кінематаграфічнай картай беларускай сталіцы стаў серыял «Каменская», які здымаўся некалькі гадоў, пра жанчыну-аператыўніка, абаяльную, але са сталёвым характарам. Але хто гэтага не ведае? У кадр трапіў і ўжо згаданы праспект Незалежнасці, і Траецкае прадмесце, і санаторый «Юнацтва» на Мінскім моры, вуліцы Карла Маркса, Старавіленская і Камуністычная. Можа быць, нешта яшчэ? Усяго і не ўспомніш.

Дарэчы, Траецкае прадмесце, гэты чароўны куток старадаўняй архітэктуры горада, яго самая еўрапейская частка, фігуруе, як ні дзіўна, у батальным ваенным фільме «На безымянной вышыне» Вячаслава Нікіфарава, з Вікторыяй Таўстаганавай і Аляксеем Чадавым у галоўных ролях. Праўда, гаворка ў ім ідзе не толькі пра бітвы, але і пра лёсы людзей, псіхалогію адносін у цяжкі і жорсткі для краіны час.

Але самы дзіўны факт — у іншым фільме. Пад Мінскам разбілі сапраўдную суровую тайгу з лабараторыяй хімічнай зброі для стужкі Андрэя Кавуна «Паляванне на піранню». Па нашых лясах блукалі Яўген Міронаў і Уладзімір Машкоў. Дарэчы, месца хутка стала славутасцю.

Мала хто ведае, але амерыканскія кінематаграфісты таксама пабывалі ў Беларусі, зняўшы, у прыватнасці, фільм «Землятрус» у 2004 годзе. Баявік атрымаўся сярэдні, але факты, звязаныя з ім, даволі пацешныя. Дагестанскі горад у цэнтры прыроднай стыхіі, дзеючая АЭС, спробы астудзіць рэактар — усё гэта прыводзіць да неабходнасці затапіць сістэму праз тунэль метро. Тут і «вылазіць» у кадры «Акадэмія навук» на фоне аднаго з вагонаў. Ніхто нават не схаваў подпіс. Як і аб'яву дыспетчара: «Наступны прыпынак — Парк Чалюскінцаў». Затое можна пабачыць, як метро эпічна апускаецца ў ваду, нібыта карабель з «Тытаніка».

Галан Менахем таксама зняў у Беларусі баявік — «Ліма: парушаючы маўчанне». Не паглыбляючыся ў сюжэт, у стужцы фігуруюць паўстанцы з Перу, японскія дыпламаты і чыноўнікі, зразумела ж, у супрацьстаянні. Ляпаў у фільме дастаткова, але выглядае ўсё гэта даволі смешна і экзатычна. Жоўтая Волга ў выдуманым Нью-Ёрку, аэрапорт імя Кэнэдзі з беларускім раскладам рэйсаў і пальмы каля Валадарскай турмы. На гэты раз Мінск становіцца горадам Ліма, сталіцай адной з дзяржаў Паўднёвай Амерыкі. У нашага горада вялікі патэнцыял.

Іншая справа: чаму на вуліцах больш замежных і расійскіх здымачных каманд, чым айчынных? Ужо шмат гадоў гэтае пытанне вісіць у паветры. Тым не менш надзея, што ў Беларусі пачнуць актыўна ствараць кіно менавіта нацыянальнае, надзённае, што выклікае спрэчкі і ўзрушае мысленне (а такое ўжо ёсць, у незалежных рэжысёраў), усё яшчэ жыве.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Смех скрозь

## Купіць гледача: французскія камедыі на беларускай сцэне



Закрыццё сезона з прэм'ерай пры поўным аншлагу. Не мара, а рэальнасць: гэта спектакль «Сямейны ўікенд» у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры. Быццам адмыслова для лета, калі галоўнае пытанне — дзе і як адпачыць? Для тых, хто застаўся ў Мінску, была створана ілюзія, што яны падарожнічаюць па Францыі, — гучыць назва Ніцы і іншых гарадоў. А яшчэ разгараюцца жарсці, традыцыйна звязаныя з французскай пачуццёвасцю, рамантычнымі інтрыжкамі і лёгкасцю быцця (з келіхам добрага віна). А калі па-нашаму, то жарсці, вартыя анекдотаў пра свавольных мужоў. Нібыта адзін з іх распавядаюць са сцэны.

Жонка нечакана вяртаецца дадому (у аэрапорце страйк, вылецець не ўдалося), а муж з маладзенькай бландзінкай… Пікантная сітуацыя становіцца заблытанай па меры таго, як Стэфан адчайна імкнецца запэўніць: гэта яго дарослая пазашлюбная дачка, якую ён хаваў ад суджэнкі. Жонка тут жа падхоплівае гульню: як жа беднае дзіця на ноч выпраўляць дадому ў іншы горад? Далей — больш адкрыццяў, нечаканасцей, нават да з'яўлення мамы бландзінкі, якая таксама стараецца ўключыцца ў гульню, але б'е па рэпутацыі і бізнес-інтарэсах Стэфана. Ён жа гэта і закруціў, каб захаваць сям'ю, а ўсё толькі развальваецца. Чым больш хлусні, тым складаней мужу выбрацца з сітуацыі, якую цалкам кантралюе жонка. Так яна думае.

Каб так жа думаў глядач, вельмі старалася рэжысёр Таццяна Аксёнкіна, для якой гэта пятая пастаноўка ў Маладзёжным тэатры (у тым ліку была і адна камедыя). Рэжысёр старанна ідзе ўслед за дыялогамі, якія дэманструюць знаходлівасць няшчырага мужа, што насамрэч адпавядае духу французскай камедыі. Але рэалізацыя ўсё ж наша. Таму мы амаль адразу здагадваемся, што і жонка пра ўсё здагадваецца. Чакаем, калі і пры якіх абставінах усё высветліцца: як далёка завядуць хлусліныя паводзіны ўсіх. Не верыш нікому: ні ў каханне Стэфана, ні ў крыўду Жулі: яе паводзіны падаюцца не столькі помсліва-жартаўлівымі, колькі здзекліва-цынічнымі. Таму што матывацыя герояў павінна быць падкрэслена і паказана. Нягледзячы на тое, што камедыйнасць закладзена самой сітуацыяй, а дыялогі і асобныя фразы, прыдуманыя французскім артыстам і драматургам Жан Полем Пуарэ, часам скіроўваюць да сюррэалізму і абсурду. Трэба гэта яшчэ паказаць з французскай лёгкасцю.

Літаральна ў нас на вачах камедыя пераўтвараецца ў тэатральную драму высілкамі артыстаў (можа, таму, што падобныя гісторыі мы адчуваем крыху інакш?), і ты пачуваешся не ў Францыі, а ў Беларусі. Ды і сапраўды, такая камедыя магла б разыгрderцца ў любой краіне, дзе ёсць заможныя мужчыны ва ўзросце, якім вельмі трэба адчуць сваё «ого-го», і маладзенькія бедныя дзяўчаты, якім трэба неяк выжываць у жорсткім свеце. І ў гэтым няма нічога смешнага — у кожнага з герояў свая псіхалогія. Стэфан (артыст Яўген Іўковіч) — прыстойны чалавек. Гэта ў яго выпадкова, ён вырашыў паспрабаваць. Не, не хоча здраджваць, нават упарціцца і адцягвае гэты момант (што і паказвае акцёр), але ж чамусьці прывёў каханку дадому. Дзяўчына Сафі (артыстка Ганна Лаухіна) круціцца як можа ў жыцці і стараецца дзеля маці, пра што даведваемся пазней. Але па паводзінах, рухах, выглядзе не інакш як дасведчаная спакушальніца. Гульня жонкі Жулі (артыстка Марыя Блінова) у дочкі-і-бацькі выглядае халоднай (хоць у такой сітуацыі закаханая жанчына рабіла б тое ж самае са страсцю, з эмоцыямі). Закруціць такую інтрыгу магла жанчына, якая не хоча страціць мужа, нават калі насамрэч гэта яна забяспечыла яму высокае становішча. Героі сям'і Вальтэр, якая прыходзіць у госці, ёсць толькі для таго, каб узмацніць напал і абсурд, адцяніць сітуацыю прыкладам іншай сям'і. Французскі гумар робіць сваё: смех у зале. На яго і зроблена стаўка. Пры тым, што, як правіла, больш смеху выклікаюць анекдоты, якія распавядаюцца ненатужна.

У нейкі момант заплюшчваю вочы і бачу кадры з фільма, дзе муж — Жан Поль Бельмандо, а маладзенькую каханку іграе юная Сафі Марсо. Нездарма ўзнікае здагадка: фільм «Вясёлы Вялікдзень» быў зняты ў 1984 годзе рэжысёрам Жоржам Латнерам паводле таго ж вадэвіля Жана Поля Пуарэ. Камедыя становішчаў у французскім стылі (дзе адна пікантная сітуацыя змяняецца наступнай не менш пікантнай) павінна была стаць паспяховым камерцыйным праектам. Фільм здымалі «пад зорку»: у Бельмандо быў пік папулярнасці. Але нават яго ўдзел не прынёс чаканага выніку ў французскім пракаце, як ні дзіўна.

Глядзела яго тады дзеля Сафі Марсо, якая толькі знялася ў «Буме» і была на ўздыме. У выніку ўсё ж мяне напаткала расчараванне: надта легкадумна… А вось цяпер зразумела: скепсіс быў выкліканы тым, што наогул не люблю камедыі становішчаў, калі героі трапляюць у няёмкія сітуацыі і вакол гэтага ўсё круціцца. Самі сітуацыі, можа, і смешныя, але толькі ў той момант, калі глядзіш на іх збоку. А калі разабрацца глыбока — дык гэта ж трагедыі. Таму трэба ўмець сыграць і зрабіць сямейныя гісторыі так, каб не перайсці мяжу пошласці. Французы ў гэтым асы і прафесіяналы — як у кіно, так і ў тэатры. Яны ўмеюць распавядаць пабытавыя і сямейныя анекдоты тонка і лёгка. І мы гэта адчуваем, пра што можна меркаваць паводле беларускіх афіш: дзе-нідзе і засвеціцца якая французская камедыя: ці ў Купалаўскім (некалькі), ці ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, ці ў Мінску, ці ў Гродне і г. д. Вось і «Сямейны ўікенд» тыя, хто сочыць за тэатральным жыццём, маглі бачыць у антрэпрызных праектах пад рознымі назвамі.

Сапраўды, п'еса касавая, а гэта значыць, што дапамажа зарабляць з верагоднасцю на 100 адсоткаў. Нездарма французскія камедыі запатрабаваныя ў нашых тэатрах цяпер: яны разлічаны на не вельмі патрабавальнага гледача, дапамагаюць збіраць залы і рабіць справаздачы. Але пытанне вось у чым: хто і для каго будзе рабіць мастацтва, калі шырокія колы гледачоў будуць «падсаджаныя», як на наркотык, на камерцыйныя спектаклі? І як потым патлумачыць людзям, што насамрэч тэатральнае мастацтва краіны важнае тым, што ў жывым творы разважае пра тое, што важна і актуальна для нашай супольнасці. Вядома, у афішы тэатра павінны быць розныя спектаклі, на любы густ. Ключавое слова тут — густ: не сапсаваць бы.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# «Юнацтва» за тры рублі



*Рэжысёр Наталля Рачкоўская.*

Душа ці скарыначка аб адукацыі, маладосць ці статуснасць, агонь у вачах ці завучаны тэкст, бюджэтнасць або «гуляй душа»? Калі вы выбралі першыя варыянты і вам усё роўна, якія дэкарацыі будуць на сцэне, сардэчна запрашаем у Тэатр юнацкай творчасці (ТЮТ).

ТЮТ — непрафесійны тэатр для дзяцей і моладзі — пачынае сваю паўвекавую гісторыю (у гэтым годзе тэатру 50 гадоў!) у 1966 г. Тады вядомы беларускі акцёр і рэжысёр Валерый Пятровіч Мароз па прыкладзе Санкт-Пецярбурга сабраў аматарскі тэатральны калектыў у Мінску. А месціцца тэатр у Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі (вул. Кірава, 16, перад будынкам ТЮГа), дзе на малой і вялікай сцэнах праходзяць усе пастаноўкі.

За 50 гадоў калектыў, які пачынаўся з адной групы ў дзесяць чалавек, вырас да 100 удзельнікаў. Падзяляецца ён на тры катэгорыі: дзіцячая, навучальная (з 5 да 13 гадоў) і рэпертуарная (з 13 гадоў), якія складаюцца з дзевяці груп па 10 — 15 чалавек. ТЮТ дае магчымасць не толькі выступаць на сцэне, але і навучае акцёрскаму майстэрству, сцэнічнай мове і руху, пластыцы, вакалу. Гэта сапраўды малады тэатральны калектыў: самаму малодшаму ўдзельніку — 5 гадоў, самаму старэйшаму — 27. Але ўзрост не мае значэння, галоўнае — жаданне вучыцца і працаваць.

— Нашы спектаклі адрозніваюцца душой, — кажуць у адзін голас акцёры. — Можа быць, у нас не такая ідэальная тэхніка, блытаная і невыразная гаворка, рухі і пластыка цела недастаткова выбастраныя, як у акцёраў драматычных тэатраў, але мы звяртаемся да душы гледача. Калі вы прыходзіце на спектакль, то адчуваеце: акцёрам падабаецца тое, што яны робяць, з любоўю і на голым энтузіязме, бо працуем цалкам бясплатна.

Хтосьці ўжо 14 гадоў, а хтосьці пару тыдняў. Тут можна сустрэць філолагаў, эканамістаў, бухгалтараў, маркетолагаў, укладчыкаў пліткі — усе рознабаковыя асобы, што дапамагае ў падрыхтоўцы да спектакля. Адны трапілі сюды па штогадовым наборы, другія пасля прагляду спектакля вырашылі застацца, кагосьці прывёў лёс. Кожны са спектакляў мае разынку: у «Залатой багіні» больш зносінаў з гледачамі, няма гэтай чацвёртай сцяны, мяжы паміж сцэнай і залай. Ды і па форме гэта хутчэй вясёлы капуснік. Рэпетыцыя доўжыцца тры-чатыры гадзіны, падрыхтоўка прэм'еры займае паўгода (за год тэатр рыхтуе да двух прэм'ер, як многія прафесійныя), спектаклі ідуць раз у месяц.

Наталля Яўгенаўна Рачкоўская, якая цяпер узначальвае тэатр, гаворыць:

— Я прыйшла ў тэатр у 1972 годзе ў якасці вучаніцы, затым скончыла акцёрскі факультэт, працавала ў Тэатры юнага гледача, з 1983 года стала кіраўніком і рэжысёрам-пастаноўшчыкам ТЮТа. Адна з маіх задач — захаваць атмасферу, якая панавала пры Валерыі Пятровічы, — прыязнасці, любові, узаемнай дапамогі і захопленасці. Нашы вучні — нашы настаўнікі — і вядуць дзіцячыя групы. Асноўная трупа на сцэне ўжо 10 гадоў, а за час маёй працы змянілася ўжо чатыры пакаленні акцёраў. Наша мэта — творчасць. Задача — стварыць спрыяльную для яе атмасферу. Пішу сцэнарыі на аснове той літаратуры, якая падабаецца: Я. Шварц, О. Генры, А. Шыпенка, А. Чэхаў. У нашым тэатры пануе маладосць, чысціня, шчырасць — тое, што з часам праходзіць, і тое, чаго не хапае ў дарослым прафесійным тэатры. Пакуль мы не можам знайсці патрэбных слоў, каб сябе прарэкламаваць, але ТЮТ для мяне — юнацтва.

У рэпертуары калектыву каля 20 спектакляў. Але тэатр не спыняецца на дасягнутым і працягвае творчыя эксперыменты, напрыклад, «Утаймаванне свавольнай» У. Шэкспіра на мове арыгінала. Таксама ажыццяўляе сумесныя праекты: мюзікл «Дождж — гэта казка» з маладзёжнай тэатральнай групай з Берліна (спектакль паказваецца ў Германіі) або опера Д. Шастаковіча «Тры пстрыкі» з музычным тэатрам «Казка» і сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Г. Аляксандрава.

Тэатр прымае актыўны ўдзел у розных міжнародных фестывалях і конкурсах. Нядаўна асноўная трупа вярнулася з Санкт-Пецярбурга, дзе праходзіў чацвёрты фестываль маладзёжных тэатраў «Арт-мобіль». Усяго ў скарбонцы каля 15 фестываляў.

Тэатральны сезон калектыў завяршыў пастаноўкай «Голас вялікага горада» па навеле О. Генры, якая складаецца з шасці частак. Сцэна стала своеасаблівым пешаходным пераходам на фоне вышынных будынкаў Нью-Ёрка. Газеты на сцэнах, дэкарацыі, што змяняюцца на вачах гледача, песня *Placebo Post Blue* акунаюць гледача ў рытм вялікага горада, прымушаюць пачуць яго голас. Дзякуючы дасловнаму перакаэу навел (з апісаннямі аўтара і маналогамі або дыялогамі герояў), пастаноўка пераўтвараецца ў своеасаблівую аўдыякніжку, якую слухаеш халодным восеньскім вечарам, а ўяўленне малюе цёплыя дэкарацыі. А агонь у вачах акцёраў, палкасць, з якой яны граюць, іх юнацкі максімалізм прыварожваюць з першай хвіліны і да апошняга слова.

**Настасся МЕЛЕХАВА**

# Казачная «армія»:
## добрая Баба Яга і абаяльны анёл

Творамі мастацтва могуць быць не толькі карціны, скульптуры або інсталяцыі. Аўтарская лялька — адзін з самых цяжкіх, ювелірна карпатлівых і вытанчаных відаў творчасці, у якім выяўляецца яркая індывідуальнасць аўтара. Кожнай маленькай фігуркай можна любавацца гадзінамі. У адной таленавіта створанай лялькі — велізарная колькасць дэталяў: маленькія банцікі, модныя чаравічкі са шнуроўкай, шыкоўныя каралі і брошкі, вытанчаныя пальчаткі, старадаўнія саквояжы, пенснэ і гадзіннікі на ланцужках…

Атмасфера абсалютнай дабрыні, бязмежнай фантазіі і шчырасці пануе на выстаўцы «Маленькая казка» мастака на ляльках Настассі Адамовіч у Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Больш за 20 унікальных лялек (у адзіным экземпляры!) былі створаны за апошнія некалькі гадоў. Персанажы розныя: ад усмешлівай Бабы Ягі, фатальнай вядзьмаркі-брунэткі на матацыкле да рамантычнай Мэры Попінс, пацешнага дамавіка і бялявага анёла незямной прыгажосці. Аўтар чэрпае натхненне з міфаў, легенд, літаратурных твораў. Такія вось ілюстрацыі ў 3D-фармаце.



*Інтэр'ерная лялька «Баба Яга з жабай».*

З аднаго боку, Настасся Адамовіч выступае скульптарам, мастаком, з другога — дызайнерам адзення і абутку, цырульнікам і візажыстам. Матэрыялы разнастайныя. Апрацоўваць даводзіцца як прафесійную гліну, дрэва, тэкстыль, так і акрыл, футра, скуру з металам…

Настасся Адамовіч, выпускніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у мінулым дызайнер сцэнічных касцюмаў, а цяпер вольны мастак, даўно займаецца стварэннем лялек. У яе творчым багажы іх цэлыя серыі, а стыль ужо стаў фірмовым. Каля двухсот работ знаходзяцца ў прыватных калекцыях і інтэр'ерах Польшчы, Нідэрландаў, Нарвегіі, Францыі, Ізраіля, Бельгіі, ЗША і Канады. Геаграфія яе выставак таксама вялікая — ад роднай Беларусі, Літвы, Расіі да Украіны, Чэхіі і Эстоніі. Сама мастачка таксама нагадвае мілую казачную гераіню: задуменная, вытанчаная, з доўгімі светлымі валасамі... І, вядома, цярплівая, бо на адну ляльку патрабуецца ад некалькіх тыдняў да месяцаў. Адны гузікі на паліто і бісерыны на абутку вартыя не аднаго «чамадану» цярпення.



*«Вядзьмарка на матацыкле».*

Лялькі праходзяць некалькі этапаў «нараджэння». Спачатку стварэнне эскіза, асобных частак (ад лепкі да разьбы па дрэве), потым роспіс, афармленне прычоскі і макіяжу, замацаванне на адмысловай падстаўцы. Асобная і вельмі важная частка працы, якой Настасся Адамовіч надае асаблівую ўвагу, — касцюм і аксесуары.

Дарэчы, аўтарская лялька як самастойны і даволі папулярны від выяўленчага мастацтва зарадзілася яшчэ ў першай палове XX стагоддзя.



*«Анёлак».*

Да гэтага лялькі былі вельмі рэдкімі, калекцыйнымі, як правіла родам з Англіі і Германіі. Стваральнікам вытанчаных фігурак давялося адмовіцца ад дактрыны, што лялька — гэта толькі цацка, а ўявіць яе нечым большым, зачаравальным, тым, што абавязкова нясе сэнс і, зразумела, незвычайны зарад эстэтыкі. А яшчэ — асабісты адбітак душы як мастака, так і таго, каму яна прызначаецца. Нездарма сёння ў лялек цэлая армія калекцыянераў. Лялькі ж упрыгожваюць вітрыны шыкоўных крам і галерэй, дзеля іх праводзяцца цэлыя фэсты, выпускаюцца часопісы, яны сталі часткай многіх інтэр'ераў, а кошт іх прыраўнялі да жывапісных і скульптурных твораў. І цалкам заслужана.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*

Бабруйскую крэпасць, якая адыграла значную ролю падчас Айчыннай вайны 1812 года, пачалі ўзводзіць 9 мая 1810-га. Менавіта ў гэты дзень Барклай дэ Толі перадаў генерал-маёру Ігнацьеву паведамленне пра тое, што Аляксандр I зацвердзіў план аб умацаванні Бабруйска. Будматэрыялы пастаўлялі сюды з розных рэгіёнаў імперыі, нават з Каўказа. На адной з пліт можна прачытаць: «…Кавказа... доставлено сие на землю белорусов... апрель, 27 дня 1811 г.». Да пачатку вайны з Напалеонам вонкавыя ўмацаванні ў асноўным узвялі. Планавалася, што гарнізон крэпасці будзе налічваць 25 тысяч чалавек.



Але, калі пачалася вайна, у цытадэлі знаходзілася толькі адна рэзервовая дывізія пад камандаваннем Ігнацьева, якая займалася будаўніцтвам. Камандзір ведаў пра наступленне французаў. Але ад цэнтральнага камандавання — ніякіх указанняў. Тады Ігнацьеў абвясціў сябе камендантам крэпасці і бабруйскім ваенным губернатарам.

Войска Напалеона з'явілася ў наваколлях Бабруйска ў канцы ліпеня 1812-га. Да абароны падрыхтаваліся грунтоўна: боепрыпасаў — на год, харчоў для амаль 8 тысяч салдат — на паўгода. Абложаны гарнізон не толькі ахоўваў і абараняў крэпасць, але і вельмі адчувальна трывожыў непрыяцеля. З 30 тысяч французскіх салдат, якія знаходзіліся тады на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, 20 тысяч стаялі пад сценамі бабруйскай цытадэлі, якая так і не здалася ворагу.

Калі рускае войска вярнулася з Заходняй Еўропы, тут размясцілі 9-ю пяхотную дывізію, у якой служылі будучыя дзекабрысты. А крэпасць знаходзіцца далёка ад меж Расійскай імперыі. Патрэба ў яе існаванні адпадае. І цытадэль становіцца казематам, дзе было мноства палітычных зняволеных, у тым ліку і дзекабрыстаў.

У 1886 годзе цытадэль ператварылі ў крэпасць-склад, а ў 1897-м наогул ліквідавалі як стратэгічную адзінку. У Вялікую Айчынную вайну немцы размясцілі ў ёй лагер смерці.

Пасля вайны доўга не маглі вырашыць, як выкарыстоўваць цытадэль. У пачатку 1950-х гадоў прынялі рашэнне аб знішчэнні. Але моцны мур і магутны падмурак вытрымалі дынамітныя зарады.

У 2002 годзе помнік гісторыі і архітэктуры «Бабруйская крэпасць» быў занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

**Тамара АГАРКОВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічваца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 28.07.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1649.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2587

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686